● выдаецца са жніўня 1917 г. БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА ● цана 1000 рублёў

12 кастрычніка 1996 г. субота, № 247 (23050)

# ЗВЯЗДА



## РОЗГАЛАС

**«Гарачыя» тэлефоны «Звязды» 268-28-72 і 269-27-51**

### ПЕНСІЯ НА ЛЕКІ?

Голас патэлефанаваўшай да нас пенсіянеркі М. (так яна назвалася) з Глыбоцкага раёна ўвесь час перарываўся слязьмі. Жанчына трапіла ў амаль безвыходнае становішча: засталася адна (муж памёр, дзяцей няма), з грузам хвароб і маленькай пенсіяй, якой ледзь хапае на пражыццё. Асноўную частку атрымліваемых грошай прыходзіцца траціць на лекі, а яны, як вядома, вельмі і вельмі дорага каштуюць. Калі мы запыталіся ў нашай суразмоўцы пра льготы, то яна шчыра адказала: «Якія ж там льготы, такія толькі для моцна хворых і існуюць, а мне на патрэбныя лекі прыходзіцца выкладваць пенсію».

Добра яшчэ, што ёсць у старой уласная гаспадарка — хоць з галаду не памрэш. А так — поўная безвыходнасць...

Шкада, праўда, што спадарыня М. так і не назвала нам сваё поўнае прозвішча, баючыся, верагодна, стаць у вачах сваіх аднавяскоўцаў прадметам насмешак. Маўляў, усім зараз цяжка, трэба цярпець.

Але ж дзе ўжо тут цярпець, калі і здароўе падводзіць, і дзяржава плаціць такія грошы, што ўсе яны адразу трапляюць у аптэку. Жыццё дзеля лекаў?

**Мікалай ЛІТВІНАЎ.**

***Паважаныя чытачы «Звязды», тэлефануйце да нас, дзяліцеся сваімі турботамі і цяжкасцямі. Мы чакаем вашых званкоў кожны дзень з 10 да 12 гадзін па тэлефонах: 268-28-72 і 268-27-51.***

*ПАДРАБЯЗНАСЦІ...*

### НЕ КОЖНЫ НАСТАЎНІК АТРЫМАЎ ЗАПАВЕТНЫЯ 500 ТЫСЯЧ ПРЭМІЯЛЬНЫХ...

**Як паведамілі карэспандэнту «Звязды» ў прафсаюзе работнікаў адукацыі і навукі, запазычанасці па заработнай плаце настаўнікаў зараз амаль няма. Паводле апошніх даных, гэтая лічба склала 17,8 мільярда рублёў. Найбольшая запазычанасць у Віцебскай — 5,5 і Мінскай абласцях — 6,6 мільярда рублёў.**

Такім чынам, на думку спецыялістаў галіновага прафсаюза, сітуацыя з выплатай настаўніцкага заробку больш-менш стабілізавалася. У чым прычына такой з'явы, вызначыць даволі складана: можа, мясцовыя выканаўчыя ўлады пачалі звяртаць больш пільную ўвагу на аплату працы педагогаў, можа яшчэ што. Тым не менш, вераснёўскую заработную плату атрымала большая частка настаўнікаў рэспублікі.

Засмучае, праўда, крыху несправядлівая выплата прэміяльных (якія, як памятаем, былі, прынамсі, вызначаны ўсім працуючым у бюджэтнай сферы ў памеры 500 тысяч рублёў штоквартальна). Аднак рэкамендацыі па выплаце, што былі распрацаваны Міністэрствам фінансаў, на практыцы прывялі да блытаніны. Бо ў іх не былі ўзяты пад увагу мноства супярэчлівых момантаў. Такіх, напрыклад, калі настаўнік падчас канікулярнай пары пераводзіўся на іншае месца работы, гэта значыць у іншую школу (у гэтым выпадку, згодна з выдадзенымі рэкамендацыямі, прэміраванне не адбываецца зусім). Ці калі выхавальнік дзіцячага садзіка знаходзіўся ў водпуску за свой кошт па прычыне спынення работы ўстановы з-за недахвату сродкаў. Яму таксама адмаўляюць у выплаце запаветных 500 тысяч рублёў. Сітуацыя амаль зайшла ў тупік, таму хутка, як стала вядома, павінны выйсці новыя рэкамендацыі, дзе ўсе супярэчнасці будуць зняты.

**Мікалай ЛІТВІНАЎ.**

# У НАШЫХ РУКАХ БУДУЧЫНЯ БЕЛАРУСІ

**З даклада Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь А. Р. ЛУКАШЭНКІ ў Вярхоўным Савеце 10 кастрычніка**

Мы з вамі перажылі некалькі нялёгкіх тыдняў. У краіне бурна развівалася дыскусія па пытанню аб рэферэндуме, даце яго правядзення, асноўнаму сэнсу і значэнню паправак, што ўносяцца ў Канстытуцыю. Яно і зразумела. Размова ідзе аб далейшых шляхах развіцця нашага грамадства, нашай будучыні. Ніхто і не думаў, што дыскусія будзе развівацца ва ўраўнаважанай манеры, раўнадушна. Але эмоцый аказалася так шмат, што яны невыказна здзівілі і журналістаў, якія шмат бачылі, а можа і Еўропу. Значная частка гэтых эмоцый была адрасавана мне.

Чаго толькі ні гаварылася! І аб маім імкненні да дыктатуры, і аб тым, што я не ведаю, куды весці Рэспубліку Беларусь, і аб тым, што я хачу быць пажыццёвым прэзідэнтам...

Не ўтаю, сказаў Прэзідэнт, многія несправядлівыя ацэнкі, зняважы ў мой адрас раняць мяне. Аднак сёння не да асабістай крыўды. У вашых і нашых руках будучыня Беларусі, дабрабыт яе грамадзян і давер гэтых грамадзян да нас. Мы не можам здрадзіць гэтаму даверу і працягваць далей сваркі, узаемныя зняважы і крыўды. Таму я і вырашыў, пераадолеўшы ўсё асабістае, яшчэ раз звярнуцца да вас з заклікам шукаць кампраміс, быць вышэй за крыўды і падазрэнні.

Мне прыемна адзначыць, што я не адзінокі ў гэтым імкненні. Як вы ўжо ведаеце з друку, сто дзесяць, а можа, цяпер ужо больш, дэпутатаў, якія сядзяць тут разам з вамі ўсімі ў гэтай зале, ужо звярнуліся да мяне з такой ініцыятывай. Павінен сказаць, што яна прыйшла вельмі своечасова. Бо праект Канстытуцыі, які я прапаную на рэферэндум пасля публікацыі, стаў прадметам усенароднага абмеркавання. Пайшоў літаральна паток заўваг, прапаноў, удакладненняў, сумненняў і пытанняў. Над абагульненнем іх працуе сёння аўтарытэтная камісія. Разам з гэтай камісіяй я разгледзеў і папраўкі, якія прапануюць дэпутаты, і хачу тут сказаць вам з усёй адказнасцю: я прымаю ў асноўным гэтыя папраўкі.

Не буду галаслоўным і далажу вам падрабязна аб тых змяненнях, што, згодна з ініцыятывай гэтай групы дэпутатаў, якія складаюць большасць Вярхоўнага Савета, я ўношу ў тэкст Канстытуцыі.

Артыкул 84 (размова ідзе аб паўнамоцтвах Прэзідэнта) выкладаецца ў наступнай рэдакцыі:

«8) са згоды Сената назначае старшыню Канстытуцыйнага суда, старшыню Вярхоўнага суда, старшыню Вышэйшага гаспадарчага суда з ліку суддзяў гэтых судоў;



9) са згоды Сената назначае суддзяў Вярхоўнага суда, суддзяў Вышэйшага гаспадарчага суда, старшыню Цэнтральнай камісіі па выбарах і правядзенню рэспубліканскіх рэферэндумаў, Генеральнага пракурора, старшыню Камітэта дзяржаўнага кантролю, старшыню і членаў праўлення Нацыянальнага банка;

10) назначае 6 суддзяў Канстытуцыйнага суда, іншых суддзяў Рэспублікі Беларусь».

З гэтымі папраўкамі карэспандуюць папраўкі, унесеныя ў пункт 2 артыкула 98, частку трэцюю артыкула 116 і частку другую артыкула 130.

Пункт 2 артыкула 98, які вызначае паўнамоцтвы Сената, выкладзены такім чынам:

«2) дае згоду на назначэнне Прэзідэнтам старшыні Канстытуцыйнага суда, старшыні і членаў Вярхоўнага суда, старшыні і членаў Вышэйшага гаспадарчага суда, старшыні Цэнтральнай камісіі па выбарах і правядзенню рэспубліканскіх рэферэндумаў, Генеральнага пракурора, старшыні Камітэта дзяржаўнага кантролю, старшыні і членаў праўлення Нацыянальнага банка».

Артыкул 116, частка трэцяя:

«Шэсць суддзяў Канстытуцыйнага суда назначаюцца Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь, шэсць суддзяў выбіраюцца Сенатам. Старшыня Канстытуцыйнага суда назначаецца Прэзідэнтам са згоды Сената. Тэрмін паўнамоцтваў членаў Канстытуцыйнага суда — 11 гадоў. Гранічны ўзрост членаў Канстытуцыйнага суда — 70 гадоў».

Артыкул 130, частка другая:

«Старшыня Камітэта дзяржаўнага кантролю назначаецца Прэзідэнтам са згоды Сената».

Такім чынам, вашы прапановы аб назначэнні старшыні Канстытуцыйнага суда і старшыні Камітэта дзяржаўнага кантролю са згоды Сената ўлічаны поўнасцю, без якіх-небудзь выключэнняў.

Па прапанове дэпутатаў мяняецца парадак фарміравання Сената, а таксама парламента ў цэлым у пераходны перыяд. У гэтай сувязі частка другая артыкула 91 і артыкул 143 прапануюцца ў рэдакцыі.

Артыкул 91, частка другая:

«Сенат з'яўляецца палатай тэрытарыяльнага прадстаўніцтва. Ад кожнай вобласці і горада Мінска ў Сенат выбіраюцца тайным галасаваннем па восем сенатараў на пасяджэннях дэпутатаў мясцовых Саветаў дэпутатаў базавага ўзроўню кожнай вобласці і горада Мінска. Восем сенатараў назначаюцца Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь». Як вы бачыце, і тут мы з вамі знайшлі даволі добрае рашэнне. Сенат будзе выбірацца, як і належыць такому органу зыходзячы з яго прававой прыроды, а Прэзідэнт будзе мець у ім, як кажуць, толькі сваіх паўнамоцных прадстаўнікоў — усяго 8 сенатараў.

Артыкул 143, згодна са зваротам 110 дэпутатаў павінен быць выкладзены так:

«У месячны тэрмін з дня ўступлення ў сілу гэтай Канстытуцыі Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь фарміруе са свайго саставу Палату прадстаўнікоў і Сенат. Частка саставу Сената назначаецца Прэзідэнтам у парадку, прадугледжаным артыкулам 91 гэтай Канстытуцыі. Пры гэтым усе дэпутаты Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь захоўваюць свае паўнамоцтвы на працягу тэрміну, прадугледжанага гэтай Канстытуцыяй, і ўваходзяць адпаведна, у Палату прадстаўнікоў і Сенат. Колькасць сенатараў не можа перавышаць устаноўленага Канстытуцыяй саставу Сената».

У звароце змяшчаецца таксама прапанова дэпутатаў аб павелічэнні тэрміну паўнамоцтваў парламента і аб устанаўленні права старшынь палат самім, без Прэзідэнта, склікаць нечарговыя пасяджэнні палат. Што датычыць апошняй — шостай — прапановы дэпутатаў, то яна таксама цалкам абгрунтаваная. Таму артыкул 95 праекта, частку пятую прапануецца выкласці наступным чынам:

«Палата прадстаўнікоў, Сенат у выпадку асаблівай неабходнасці склікаюцца на нечарговую сесію па ініцыятыве Прэзідэнта, старшынь палат, а таксама па патрабаванню большасці ад поўнага саставу кожнай з палат па пэўнаму парадку дня».

Такім чынам, паводле майго глыбокага пераканання, і дух, і сутнасць 4 прапаноў дэпутатаў Вярхоўнага Савета, пералічаных у іх Звароце, а менавіта 2-я, 3-я, 5-я і 6-я прапановы, намі ўлічаны поўнасцю, без усякіх ваганняў. Гэтым мы прадэманстравалі сёння нашу добрую волю, імкненне знаходзіць сумеснае выйсце з вострых крызісных, канфліктных сітуацый. І больш таго, дэманструем усяму народу Беларусі нашу з вамі здольнасць знаходзіць гэтае выйсце. Таму што ў такіх выпадках, як усім вядома, аднаго жадання пазбегнуць канфлікту мала — трэба яшчэ і ўменне, і добрая воля, і творчы падыход да актуальных праблем нашага жыцця.

Што ж датычыць першай і чацвёртай прапановы, у прыватнасці па фарміраванню парламента пераходнага тыпу з цяперашняга саставу Вярхоўнага Савета і па павелічэнню тэрміну будучых парламентаў да 5 гадоў (у праекце ён вызначаны — 4 гады), то тут я хацеў бы з вамі параіцца.

Па-першае, я прасіў бы вас пагадзіцца, каб тэрмін паўнамоцтваў тых новых парламентаў, якія калісьці будуць выбраны, усё ж быў пакінуты, як у праекце і закладзена, 4 гады. Гэта звязана з тым, што тэрмін паўнамоцтваў Прэзідэнта і парламента не павінен супадаць, каб у час іх выбараў краіна магла мець цвёрдыя гарантыі нармальнага, не захопленага перадвыбарнай эйфарыяй, функцыянавання хоць бы адной галіны ўлады. Таму я прапаную, пакінуўшы тэрмін паўнамоцтваў для будучых парламентаў 4 гады, а для Прэзідэнта -- 5 гадоў, у артыкуле 143 праекта, вынесенага на ўсенароднае абмеркаванне, запісаць, што тэрмін паўнамоцтваў парламента, створанага на базе цяперашняга Вярхоўнага Савета, складзе 5 гадоў. Гэта першае і, пагадзіцеся, нядрэннае дапаўненне або ўдакладненне да прапаноў дэпутатаў па 143-м і 93-м артыкулах праекта.

**(Заканчэнне на 2-й стар.)**

*ПАРЛАМЕНЦКІ ДЗЁННІК*

# ПРЭЗІДЭНТ І ПАРЛАМЕНТ У ПОШУКУ ПАРАЗУМЕННЯ

**Учора ў Вярхоўным Савеце Беларусі працягвалася абмеркаванне магчымасці змянення даты правядзення агульнарэспубліканскага рэферэндуму, у якім прыняў удзел Прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка. Але, каб зразумець сутнасць учарашняй размовы, трэба вярнуцца да падзей папярэдняга дня.**

«Звязда» ўжо коратка паведамляла, што пасля з'яўлення звароту 110 дэпутатаў на імя Прэзідэнта вечарам 10 кастрычніка Аляксандр Лукашэнка выступіў у парламенце з прамовай. Ён станоўча ўспрыняў ідэю кампрамісу, прапанаваную ў звароце, і адказаў, што згодзен унесці некаторыя змены ў праект паправак у адказ на тое, што дэпутаты ўнясуць папраўкі ў ранейшую пастанову Вярхоўнага Савета, якая датычылася ўмоў правядзення рэферэндуму, і прызначаць новую дату плебісцыту — 7 лістапада замест 24 лістапада. Аднак патрабаванні Прэзідэнта гэтым не абмежаваліся, і ён папрасіў дэпутатаў таксама адклікаць альтэрнатыўны праект змен і паправак у Канстытуцыю, прапанаваны фракцыямі камуністаў і аграрыяў. *(Выступленне Прэзідэнта публікуецца).*

Пасля выступлення Аляксандра Лукашэнкі дэпутаты змаглі задаць яму пытанні. Найбольш цікавыя пытанні і адказы мы прапануем увазе нашых чытачоў. Так, у Прэзідэнта пацікавіліся парадкам фінансавання рэферэндуму і стварэннем выбарчых камісій, на што Аляксандр Лукашэнка адказаў, што тры мільярды рублёў былі накіраваны абласным камісіям. Само ж стварэнне акруговых і участковых камісій ужо ўсюды адбылося. (Дарэчы, пазней старшыня Цэнтрвыбаркома Віктар Ганчар не згодзіцца з інфармацыяй Прэзідэнта, адзначыўшы, што яго службы далі кіраўніку дзяржавы няправільную інфармацыю.) Тройчы дэпутаты цікавіліся прыхільнасцю А. Лукашэнкі менавіта да даты 7 лістапада. А на пытанне, хто з'яўляецца аўтарам праекта Канстытуцыі, Прэзідэнт адказаў коратка: «Ён перад вамі». Ці знікнуць з прыняццем паправак у Канстытуцыю супярэчнасці і рознагалоссі паміж дзвюма галінамі ўлады? Па перакананню Прэзідэнта, будуць ліквідаваны прычыны рознагалоссяў, якія ўзнікаюць зараз, і, «ва ўсякім разе 70 чалавек не будуць кожны дзень здымаць Прэзідэнта з пасады». Простаму чалавеку Канстытуцыя ў новым выглядзе, на думку А. Лукашэнкі, дасць гарантыю спакою і стабільнасці. Многія пытанні былі з «двайным дном». Таму, разумеючы гэта, Прэзідэнт на некаторыя падрабязна не палічыў патрэбным адказаць.

Апошнім прагучала выступленне старшыні Цэнтральнай камісіі па выбарах і правядзенню рэспубліканскіх рэферэндумаў Віктара Ганчара, які ў першую чаргу зачытаў зварот Цэнтрвыбаркома да Вярхоўнага Савета і Прэзідэнта. Сутнасць яго заключаецца ў тым, што камісія адзначыла поўную адсутнасць фінансаваня мерапрыемстваў рэферэндуму і выбараў і парушэнне заканадаўства пры ўтварэнні выбарчых акруговых і ўчастковых камісій. Улічваючы такі стан спраў, ЦВК заклікала перанесці рэферэндум з 24 лістапада на больш позні тэрмін, каб была магчымасць падрыхтавацца да ўсенароднага галасавання ўсебакова і ў адпаведнасці з дзеючым заканадаўствам. Ад сябе В. Ганчар заявіў, што з мерапрыемствамі агульнадзяржаўнага маштабу нельга жартаваць, паколькі яны могуць ператварыцца ў пустую трату грошай. Калі ж падрыхтоўка будзе і далей адбывацца такім чынам, як зараз, то ўжо сёння ёсць усе падставы прызнаць вынікі галасавання несапраўднымі.

Такім чынам, дэпутатам Вярхоўнага Савета было над чым падумаць ноччу, паколькі ўжо ўчора раніцай яны збіраліся даць адказ Прэзідэнту.

**Юрась ЛЯШКЕВІЧ.**

## УВАГА!

***ПАВАЖАНЫЯ ПАДПІСЧЫКІ І ЧЫТАЧЫ ГАЗЕТЫ «ЗВЯЗДА»!***

***З 1 верасня 1996 года ў сілу ўступілі новыя Правілы дарожнага руху, якія маюць пэўныя адрозненні ад папярэдніх.***

Не сумняваемся, што сярод прыхільнікаў «Звязды» ёсць шмат аўтааматараў і вадзіцеляў са стажам, у якіх накапілася мноства пытанняў да супрацоўнікаў дзяржаўтаінспекцыі рэспублікі.

У вас ёсць магчымасць іх задаць. На тэлефонныя званкі і пісьмы чытачоў газеты праз супрацоўнікаў рэдакцыі ў бліжэйшы час адкажа начальнік ДАІ Рэспублікі Беларусь **палкоўнік міліцыі Алег Аляксеевіч ЧУДНІКАЎ**.

**Званіце нам па тэлефонах:**

(8-017) 268-29-68, 268-27-81, 268-29-19 з 9.00 да 18.00 (можна ўжо сёння), ці неадкладна задавайце пытанні пісьмова па адрасу: 220013, г. Мінск, вул. Б. Хмяльніцкага, 10-а, рэдакцыя газеты «Звязда» з паметкай **«Для начальніка ДАІ РБ»**.

# У НАШЫХ РУКАХ БУДУЧЫНЯ БЕЛАРУСІ

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)**

Другое ўдакладненне датычыць таго, што не могуць усе, паўтараю, усе цяперашнія дэпутаты стаць сенатарамі, як бы гэтага ні хацелася. Трэба ж некаму працаваць, а дакладней, пісаць законы, і ў Палаце прадстаўнікоў. Таму я згаджаюся з тым, што дэпутаты самі, без удзелу Прэзідэнта, сфарміруюць дзве новыя палаты, як вы і прапануеце, прычым усе дэпутаты Вярхоўнага Савета ўвойдуць у састаў новага парламента. Але пры гэтым у састаў Сената ўвойдуць толькі тыя дэпутаты, якіх выберуць у якасці сенатараў Саветы дэпутатаў базавага ўзроўню ў кожнай з абласцей і г. Мінску, гэта значыць так, як увогуле і прадугледжана ў праекце змяненняў у Канстытуцыю. Трэба гэту працэдуру, паважаныя дэпутаты, тым, хто мае намер стаць сенатарамі, прайсці. Бо і рэгіёны зацікаўлены ў гэтым. Ну, і 8 сенатараў назначыць Прэзідэнт.

Астатнія ж дэпутаты, калі народ і вы падтрымаеце мяне на рэферэндуме, будуць у саставе Палаты прадстаўнікоў. Прычым можна запісаць, што функцыі дэпутаты могуць ажыццяўляць, не парываючы са службовай або вытворчай дзейнасцю. Карацей, мы прымаем варыянт 110 дэпутатаў па фарміраванню пераходнага парламента, але з вашай згоды з невялікай папраўкай адносна фарміравання Сената. Я зачытаю даслоўна прапануемы варыянт артыкула 143:

«У месячны тэрмін з дня ўступлення ў сілу гэтай Канстытуцыі Вярхоўны Савет створыць з свайго саставу Палату прадстаўнікоў. Пры гэтым усе дэпутаты Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь захоўваюць свае паўнамоцтвы на працягу тэрміну, прадугледжанага гэтай Канстытуцыяй, і могуць ажыццяўляць іх на прафесіянальнай аснове або не парываючы з вытворчай ці службовай дзейнасцю. Тэрмін іх паўнамоцтваў вылічваецца з дня ўступлення ў сілу гэтай Канстытуцыі.

Сенат фарміруецца ў парадку, прадугледжаным артыкулам 91 гэтай Канстытуцыі, з ліку дэпутатаў Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь.

Восем сенатараў назначаецца Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь.

Колькасць сенатараў не можа перавышаць устаноўленага Канстытуцыяй саставу Сената».

Вядома, што ў святле сказанага ўсе выдумкі аб нейкім разгоне Вярхоўнага Савета пасля рэферэндуму — не больш чым правакацыя.

Акрамя таго, хачу асабліва падкрэсліць, што я ўвогуле не разглядаў гэты праект Канстытуцыі як назаўсёды застылую догму і не разглядаю яго і цяпер. І сёння заяўляю аб гатоўнасці да кампрамісаў і дадаю адначасова, што наша камісія прыме і дасць у новых фармулёўках цэлы шэраг пажаданняў, якія часта вельмі істотна дапаўняюць Канстытуцыю, якія паступілі ад грамадзян рэспублікі, працоўных калектываў, грамадскіх арганізацый і дзяржаўных органаў. Аб гэтых папраўках я асобна далажу грамадскасці на Усебеларускім народным сходзе 19 кастрычніка.

Напрыклад, у кантэксце размоў, што вядуцца апазіцыяй аб празмерным расшырэнні паўнамоцтваў Прэзідэнта, чаго на самай справе ў праекце няма, намі прапануюцца дадатковыя гарантыі магчымага ўздзеяння парламента на Прэзідэнта, а значыць і расшырэння кампетэнцыі парламента. У прыватнасці, зніжаны, напрыклад, кворум для пераадолення парламентам вета Прэзідэнта да 2/3 галасоў саставу палат парламента. Па шэрагу выпадкаў для гэтага ў праекце прадугледжвалася, як вы ведаеце, 3/4 галасоў (праграмныя, напрыклад, законы). Большасцю ў 2/3, а не ў 3/4 галасоў, як было ў праекце, Сенат зможа вырашаць пытанне аб зняцці Прэзідэнта з пасады. Я прыняў рашэнне не ўносіць у якасці змяненняў і палажэнне аб пажыццёвым сенатарстве былога Прэзідэнта — можа, сапраўды, гэта добра за мяжой, а ў нас не зразумеюць.

Устанаўліваецца дакладны тэрмін, на працягу якога па пытаннях, прадугледжаных у Канстытуцыі, выдадзеныя Прэзідэнтам дэкрэты накіроўваюцца на разгляд у парламент, — ён роўны 3 дням. У трохдзённы тэрмін Прэзідэнт абавязаны будзе паведаміць Сенату і аб прынятым ім рашэнні па ўвядзенню на тэрыторыі рэспублікі ваеннага становішча ў выпадках, прадугледжаных Канстытуцыяй. Абмяжоўваецца права Прэзідэнта — не больш чым на 3 месяцы — адкладваць правядзенне забастоўкі, як і прапануюць прафсаюзы, а таксама некаторыя эксперты. Ёсць і цэлы шэраг іншых магчымых паправак дэмакратычнага характару. Мы іх вам у самыя бліжэйшыя дні прадставім і хацелі б, каб абноўлены праект вы абмеркавалі і рэкамендавалі на рэспубліканскі рэферэндум. Тым больш, што асноўная ўвага ў гэтых змяненнях удзяляецца расшырэнню правоў і свабод грамадзян рэспублікі і далейшаму ўзмацненню гарантый іх рэалізацыі.

Акрамя таго, улічаны і шэраг істотных палажэнняў, якія з'яўляюцца праграмнымі для дэпутатаў-камуністаў, напрыклад, аб захаванні грамадскай, дакладней, дзяржаўнай уласнасці. Думаю, мы правільна, з пункту гледжання дэпутатаў-аграрыяў, ды і многіх іншых дэпутатаў, зробім, калі вырашым запісаць у Канстытуцыю палажэнне аб тым, што землі сельскагаспадарчага прызначэння з'яўляюцца дзяржаўнай уласнасцю. Але па гэтым пытанні я хацеў бы параіцца разам з вамі з удзельнікамі будучага Усебеларускага народнага сходу. І думаю, што рашэнне яго будзе адназначным — такім, якое мы з вамі, з большасцю дэпутатаў, уяўляем.

Я ўсё сказаў. Цяпер слова за вамі, паважаныя дэпутаты, якое выявіцца, спадзяюся, у адкрытым, сумленным галасаванні па ўнясенню змяненняў у прынятыя рашэнні Вярхоўнага Савета па рэспубліканскаму рэферэндуму. Пры станоўчых выніках гэтага галасавання, а значыць, адабрэнні нашай з вамі ўзгодненай праграмы канстытуцыйных пераўтварэнняў, мы разам з вамі пойдзем на рэферэндум і разам будзем увесь вызначаны Канстытуцыяй тэрмін ажыццяўляць гэту праграму, калі яе падтрымае народ.

У сувязі з вышэйсказаным хачу звярнуць вашу ўвагу на тое, што, паколькі цяпер ёсць праект, узгоднены з большасцю дэпутатаў Вярхоўнага Савета, на мой погляд, ранейшы, унесены фракцыяй камуністаў, праект Вярхоўнага Савета ўжо становіцца немэтазгодным — яго трэба зняць з рэферэндуму.

Хацеў бы таксама звярнуць вашу ўвагу на наступнае. Сёння ў шматлікім хоры крытыкаў і ганьбавальнікаў ідэі рэферэндуму, як правіла, істотных крытычных заўваг па зместу самой Канстытуцыі, за выключэннем галаслоўных сцвярджэнняў аб імкненні да асабістай, абсалютнай улады, не было. Але нават і з улікам гэтага, як бачыце, я праявіў і добрую волю, і імкненне да ўзгодненых дзеянняў, і прыняў практычна ўсе заўвагі дэпутатаў.

Ніхто з самых сур'ёзных крытыкаў не аспрэчваў таксама маё права склікаць рэферэндум і вынесці на яго свой праект Канстытуцыі. Ды я ж у сваім выступленні перад вамі не аб праве гэтым прасіў, я прасіў толькі назначыць дату рэферэндуму. Замест гэтага Вярхоўны Савет чамусьці палічыў патрэбным змяніць саму ідэю і задуму прапануемага мной рэферэндуму, уносячы свае папраўкі, аб якіх я не прасіў і якія я не маю намеру выкарыстоўваць. Я прасіў толькі аб даце.

Дадам ад сябе, што ў практыцы пасляваеннай Еўропы праводзіліся дзесяткі рэферэндумаў у самых розных краінах і ў розныя перыяды. Значная, калі не большая, частка з іх прапаноўвалася кіраўнікамі дзяржаў. У гэтай жа гісторыі не зафіксавана ніводнага выпадку, каб вышэйшая заканадаўчая ўстанова не дала Прэзідэнту магчымасць правесці рэферэндум у тую дату, аб якой ён просіць.

Ёсць жа і няпісаныя правілы ўзаемнай павагі. Мы з вамі дзве галіны ўлады, аднолькава легітымныя, бо выбраны народам у строгай адпаведнасці з законамі і Канстытуцыяй. І калі адна галіна ўлады выступае з нейкай зусім законнай ініцыятывай і просіць другую галіну ўлады не перашкаджаць ёй, то гэта як бы акалічнасць, зразумелая сама па сабе. Бо зусім відавочна, што выйгрыш або пройгрыш Прэзідэнта на рэферэндуме вызначаецца не датай яго правядзення, а дакладней, не столькі датай, колькі складанымі абставінамі грамадскага даверу да яго і яго палітыкі, сутнасцю прадстаўленых пытанняў на рэферэндум, правам народа выказаць яго адкрыта.

Сёння, звяртаючы на гэта ўвагу, я хачу сказаць, што калі па тэксту Канстытуцыі ёсць ужо ўзгодненасць, кансенсус большасці дэпутатаў Вярхоўнага Савета, то наўрад ці варта распачынаць зноў доўгую спрэчку аб даце правядзення рэферэндуму. Дадам да гэтага, што большасці грамадзян, як паказваюць нашы гутаркі з імі, сама спрэчка гэта незразумелая. Разважным жа людзям ясна, што перамена даты мала што мяняе, але калі ў Прэзідэнта ёсць нейкія свае меркаванні наконт менавіта гэтай даты, а не іншай, калі яны не звязаны з якім-небудзь парушэннем закона, то чаму б не даць яму такое права.

Таму я прасіў бы пераканаўча яшчэ раз, паважаны сход, разгледзець пытанне і пакінуць дату правядзення, названую мной у маім першым выступленні, — 7 лістапада. Гэта дата пэўным чынам адклалася ўжо ў свядомасці народа, яна атрымала адабрэнне многіх грамадскіх арганізацый, груп, выдатных дзеячаў культуры нашай краіны. Мяняць яе цяпер — гэта яшчэ раз уносіць замяшанне ў розумы, дэманстраваць свайму народу і ўсяму свету нашу няздольнасць дамовіцца па прыватных пытаннях. Як жа могуць давяраць яны нам у вялікіх справах, звязаных з выхадам з крызісу, эканамічнай рэформай, будучыняй грамадства, калі мы не можам знайсці згоду ў адным, адносна прыватным пытанні. Я прашу вас перагледзець ваша рашэнне і назначыць дату рэферэндуму на 7 лістапада бягучага года, зняўшы пры гэтым альтэрнатыўны праект змяненняў у Канстытуцыю, прапанаваны некаторымі камуністамі і іншымі дэпутатамі...

Я і сёння заяўляю вам, што я гатоў да прадаўжэння дыялогу, да пошуку шляхоў сумеснага вырашэння праблем, да выхаду з крызісу аб'яднанымі намаганнямі, сказаў Прэзідэнт. Я заклікаю да гэтага і партыі, і грамадскія рухі...

Кожны вольны выказваць свае думкі, кожны мае права мець іх, ніхто ніколі не мае права праследаваць другога за іншадумства. Але ў спрэчных пытаннях, калі вышэйшае кіраўніцтва краіны, грамадскія арганізацыі і партыі, галіны ўлады не могуць прыйсці да адзінай думкі, працягваюць канфрантацыю, узаемныя выкрыванні, шальмаванні непажаданых і нязгодных — гэта шлях у тупік. Усім нам дарагія і грамадзянская згода, і мір, і спакой, якія пануюць у нашай рэспубліцы. Ва ўсіх у нас адна радзіма — маці Беларусь. Таму давайце выберам відавочнае: і калі мы самі не зможам дамовіцца паміж сабой, давайце спытаем думку народа. І выканаем яго волю.

# Аляксандр Лукашэнка заявіў, што ён не можа знайсці кампраміс з парламентам і будзе напрамую звяртацца да народа

11 кастрычніка працягвалася абмеркаванне ініцыятывы Прэзідэнта аб змяненнях у ягоным праекце Канстытуцыі, што пашыраюць правы парламентарыяў, і ягонай просьбы перанесці тэрмін правядзення рэферэндуму з 24 на 7 лістапада, зняўшы пры гэтым альтэрнатыўны праект Канстытуцыі і альтэрнатыўныя пытанні. 23 дэпутаты, пераважна ад фракцыі «Згода», прапанавалі ў развіццё звароту Прэзідэнта ўключыць у парадак дня пытанне «Аб унясенні змяненняў у Пастанову Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад 6 верасня 1996 г. «Аб правядзенні рэспубліканскага рэферэндуму ў Рэспубліцы Беларусь і мерах па яго забеспячэнню».

Да гэтай прапановы быў прыкладзены праект адпаведнай пастановы, у якім прапаноўвалася памяняць дату рэферэндуму на 7 лістапада і выключыць усе альтэрнатыўныя прэзідэнцкаму пункты. Вакол гэтага пытання і разгарэліся спрэчкі. Кіраўнікі фракцый аграрыяў і камуністаў Гіруць і Калякін унеслі сваю прапанову — правесці па гэтай праблеме тайнае галасаванне праз кабіны, улічваючы, што прапаноўваецца адмяніць пытанні, вынесеныя групай дэпутатаў Вярхоўнага Савета, а таксама «існуючы ціск на дэпутатаў».

Тым не менш, Генадзь Карпенка прапанаваў увогуле адкласці вырашэнне гэтага пытання, паколькі ніхто яшчэ не бачыў апублікаванымі тых змяненняў, аб якіх гаварыў напярэдадні Прэзідэнт. Тым больш, што сам А. Лукашэнка даў дэпутатам на гэта час да 18 кастрычніка. Яго падтрымаў Анатоль Лябедзька, які прапанаваў разглядаць гэтае пытанне пасля атрымання канчатковага варыянта Канстытуцыі, які, верагодна, з'явіцца ў пачатку 20-х чыслаў кастрычніка. Старшыня Цэнтрвыбаркома Віктар Ганчар папярэдзіў дэпутатаў, што мяняць тэрміны рэферэндуму, згодна з законам, можна толькі ў выпадку ўвядзення надзвычайнага становішча, а таму нельга ўносіць змены ў прынятую раней пастанову, а можна прыняць толькі новую пастанову з новай датай, адносна якой і трэба будзе пазней адлічваць планавыя мерапрыемствы па правядзенню рэферэндуму. Але ўсё ж дэпутаты, улічваючы прысутнасць у зале Прэзідэнта Аляксандра Лукашэнкі, вырашылі паставіць на галасаванне «прапанову 23-х» аб уключэнні ў парадак дня гэтай праблемы. Яна дастаткова лёгка прайшла — 123 парламентарыі выказаліся за гэта. Тут жа была пастаўлена на галасаванне прапанова С. Калякіна і М. Гіруця аб тайным галасаванні, праз кабінкі, пры прыняцці адпаведнай пастановы. І гэтая прапанова прайшла. За яе выступілі 95 дэпутатаў пры неабходным кворуме для такіх рашэнняў у 89 галасоў. Некаторыя прадстаўнікі фракцыі «Згода», аднак, настойвалі не на тайным, а на пайменным галасаванні, але не знайшлі падтрымкі калег.

Нечакана для многіх слова ўзяў старшыня Канстытуцыйнага суда Валерый Ціхіня, які, як і Прэзідэнт, мае права ўзяць слова пры разглядзе любых пытанняў у Вярхоўным Савеце. Выступленне кіраўніка судовай галіны ўлады было не столькі юрыдычным, колькі палітычным: «Цяпер мы не маем права маўчаць. Канстытуцыйны суд звярнуўся да Прэзідэнта і 84 дэпутатаў з прапановай пайсці на разумны кампраміс — адклікаць свае праекты Канстытуцый і сесці за стол перагавораў. Мы гатовы выступіць арбітрам у гэтай спрэчцы. Шлях кампрамісу, уступак з'яўляецца аптымальным выйсцем. Аднак да гэтага не гатовы Прэзідэнт».

В. Ціхіня назваў прапановы, з якімі напярэдадні выступіў Прэзідэнт, не кампрамісам, а ультыматумам Вярхоўнаму Савету. Прэзідэнцкі праект Канстытуцыі, на думку Валерыя Гур'евіча, немагчыма ўдасканальваць і дапрацоўваць, бо ён «мае ў сваёй аснове гнілую сарцавіну». «Калі мы гэты праект увядзём заўтра, то будзем мець дыктатарскі рэжым з кастрыраваным парламентам. Хто ў Еўропе будзе пасля гэтага з намі лічыцца», — заявіў В. Ціхіня. Усебеларускі сход Валерый Гур'евіч назваў прапагандысцкай шуміхай і заявіў, што наша краіна «блізкая да прававога Чарнобыля». Валерый Ціхіня напрамую звярнуўся да Аляксандра Лукашэнкі: «Набярыцеся мужнасці прызнаць, што сваім праектам вы паставілі грамадства на дыбкі, раскалолі нацыю на прыхільнікаў і праціўнікаў дзеючай Канстытуцыі. І зрабілі гэта ва ўмовах эканамічнага крызісу». Валерый Ціхіня прывёў прыклад Польшчы, дзе паспяхова праводзяць эканамічныя пераўтварэнні, маючы Канстытуцыю 1964 года. Ён яшчэ раз заклікаў Прэзідэнта сесці за стол перагавораў з парламентам на карысць інтарэсаў беларускага народа. «Сваё апошняе слова па рэферэндуму Канстытуцыйны суд яшчэ не сказаў. Мы яго скажам, калі вы прыйдзеце да міру і згоды», — заявіў старшыня КС і перасцярог Прэзідэнта ад неканстытуцыйнага вырашэння пытанняў, звязаных з рэферэндумам.

Рэакцыя Прэзідэнта была рашучай. Ён заявіў, што старшыня Канстытуцыйнага суда не мае права на такія палітычныя заявы, заснаваныя на ўласных ацэнках. «Я катэгарычна адхіляю гэту заяву як крайне некарэктную. Пасля такой заявы вы не маеце права больш займаць пасаду старшыні Канстытуцыйнага суда», — заявіў А. Лукашэнка ў адрас В. Ціхіні. Аднак Ціхіня адказаў, што ён мае права на падобнае выступленне згодна з арт. 7 Закона аб КС.

У дэбаты запісаліся 13 чалавек, аднак толькі А. Клімаву ўдалося выказаць свае адносіны да абмяркоўваемага пытання. Яго выступленне таксама было не вельмі прыемным для Прэзідэнта, і пасля таго, як дэпутат Клімаў завяршыў сваю эмацыянальную прамову, А. Лукашэнка выступіў са сваёй:

— Я прыйшоў з мірам, хацеў кампрамісаў, а вы ў чарговы раз схаваліся за спіны большасці і вырашылі пайсці ў кабіны. Вы не здольны вырашыць гэтую праблему. Я заяўляю, што з сённяшняга дня не бачу магчымасці знайсці ў гэтай зале кампраміс і буду напрамую звяртацца да народа, чаго б гэта мне ні каштавала. Я адклікаю свае ініцыятывы і прашу Сямёна Георгіевіча зняць гэтае пытанне з абмеркавання. У мяне толькі адзін шлях — народ, людзі, але не дэпутаты.

Можна толькі здагадвацца, што ж было галоўнай прычынай такога рашучага кроку Прэзідэнта. Відаць, хутчэй за ўсё, ён палічыў, што праз кабіны для тайнага галасавання патрэбнае яму рашэнне не пройдзе, а выступленне Ціхіні толькі падштурхнула яго да такіх рэзкіх дзеянняў.

Пасля перапынку Прэзідэнта ў зале ўжо не было, і дэпутаты Пашкевіч і Камай прапанавалі калегам разысціся па фракцыях для кансультацый. Аднак калегі іх не падтрымалі, а таксама спынілі спрэчкі і прыступілі да фарміравання падліковай камісіі, зацвярджэння формы бюлетэняў для тайнага галасавання.

А 16-й гадзіне сталі вядомы вынікі тайнага галасавання. За праект пастановы «23-х» аб пераносе даты рэферэндуму і адкліканні альтэрнатыўных пытанняў выказаліся 84 дэпутаты, супраць — 88. Такім чынам, дата рэферэндуму і пытанні застаюцца ранейшымі. Рэферэндум павінен адбыцца 24 лістапада, на яго будзе вынесена сем пытанняў, два з якіх — альтэрнатыўныя праекты Канстытуцыі, з якіх выбаршчыкі могуць аддаць перавагу лепшаму, на іх погляд. Акрамя Вярхоўнага Савета, ніхто не мае права назначыць іншую дату рэферэндуму і састаў пытанняў.

**Валер КАЛІНОЎСКІ.**

## ПРЭЗІДЭНТ ПАВІНШАВАЎ ВЯДОМАГА РАСІЙСКАГА ТРЭНЕРА

Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка накіраваў віншаванне заслужанаму трэнеру СССР, заслужанаму майстру спорту СССР, алімпійскаму чэмпіёну Мікіту Сіманяну ў сувязі з яго 70-годдзем.

«Нам у Беларусі добра вядомы Ваш вялікі ўклад у развіццё савецкага і сусветнага футбола, міжнароднага спартыўнага руху. Мы ведаем Вас не толькі як выдатнага спартсмена, але і як таленавітага трэнера, які выхаваў не адну плеяду футбалістаў», — гаворыцца ў віншаванні.

Беларускі Прэзідэнт пажадаў Мікіту Сіманяну і яго сям'і моцнага здароўя, шчасця і дабрабыту.

**БЕЛТА.**

## АЛЬТЭРНАТЫЎНЫ КАНГРЭС АДБУДЗЕЦЦА 18-19 КАСТРЫЧНІКА

Як заявілі арганізатары Кангрэса ў абарону Канстытуцыі, супраць дыктатуры, гэтая акцыя павінна прайсці 18-19 кастрычніка ў сталічным Палацы Белсаўпрофа. Гэтая зала на 750 месцаў, аднак, як мінімум, на кангрэс прыбудзе тысяча дэлегатаў, з іх 400 будуць прадстаўляць партыі, 300 — прафсаюзныя арганізацыі, 100 заявак паступіла ад працоўных калектываў. Адзін з членаў аргкамітэта, дэпутат Вярхоўнага Савета А. Бухвостаў, заявіў, што выбіраць дэлегатаў ад працоўных калектываў, як гэта рабілася на Усебеларускі народны сход, часта не дазваляе адміністрацыя прадпрыемстваў. 19 кастрычніка дэлегаты кангрэса маюць намер прыняць удзел у шматтысячным шэсці і мітынгу каля опернага тэатра, якія дазволены Мінгарвыканкомам.

Мітынг і шэсце адбудуцца падчас правядзення ў Палацы спорту Усебеларускага народнага сходу, таму, натуральна, сітуацыя ў сталіцы Беларусі ў гэтыя дні будзе надзвычай напружаная.

Старшыня Аргкамітэта па правядзенню альтэрнатыўнага кангрэса, экс-міністр унутраных спраў Рэспублікі Беларусь Юрый Захаранка звярнуўся да кіраўнікоў і супрацоўнікаў службаў, органаў, падраздзяленняў унутраных войскаў, КДБ, Міністэрства абароны і іншых сілавых ведамстваў і структур нашай краіны. У звароце Ю. Захаранка заклікаў іх «не паддавацца на правакацыі» безразважных палітыкаў, якія свае інтарэсы паставілі вышэй краіны і народа».

**Валер КАЛІНОЎСКІ.**

## ЭКС-ПРЭЗІДЭНТУ «ФАНДОКА» ПРАД'ЯЎЛЕНА АБВІНАВАЧАННЕ

Закончана следства па справе былога прэзідэнта Бабруйскага акцыянернага таварыства «Фандок» Уладзіміра Таранава. Яму прад'яўлена абвінавачанне ў атрыманні крэдытаў для прадпрыемства па фіктыўных дакументах, у злоўжыванні службовым становішчам і іншых парушэннях закона. Магілёўская абласная пракуратура перадала справу ў абласны суд. А адтуль яна накіравана «па падсуднасці» ў суд Ленінскага раёна горада Бабруйска.

Дададзім, што раней Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка вызваліў У. Таранава ад займаемай пасады за вялікія недахопы ў рабоце.

**Мікалай НАЗАРОВІЧ, БЕЛТА.**



**Рыгор БАРАДУЛІН:**

# «Над нашай краінай — свая зорка, якая абараняе Беларусь, накіроўвае яе да незалежнасці, да дзяржаўнасці, да неад'емнасці ў Еўропе»

***У наш песімістычны, стратны век (крытэрый ацэнкі які? Калі хочаце, хаця б ужо непараўнальная з мінулым жорсткасць, велізарнейшы гвалт аднаго чалавека над другім) хочацца, душа просіць, лекаў. Для мяне асабіста яны — у гаючым, крынічным слове. У роднай беларускай кнізе. Калі становіцца асабліва горача і тлумна, не дапамагае ўжо астыць галаве глыток паветра нават чыстага, бярозавага кшталту, тады іду да кнігі. Тады ратуюць старонкі прозы Янкі Брыля і светлай памяці Фёдара Міхайлавіча Янкоўскага, Васіля Быкава і Віктара Карамазава, Алеся Жука, вершы Аляксея Пысіна і Сяргея Законнікава, Анатоля Вялюгіна і Пімена Панчанкі... Багатая беларуская кніжніца! Ратуюць, вяртаюць спакой, гоняць прэч трывогу і вершы Рыгора Барадуліна. Зараз, ужо, мусіць, хутка будзе год, як на пісьмовым стале, дома, — яго апошні вершаваны зборнік «Евангелле ад мамы». Чамусьці часта так атрымліваецца, што кніга аказваецца разгорнутай на 74-й старонцы — з вершам «Любоў да Радзімы».***

*Вочы маюць сляпыя,*
*Вушы маюць глухія,*
*А бязмозгія не без ілбоў.*
*Настальгія па настальгіі —*
*Гэта й ёсць*
*Да Радзімы любоў.*

***Чаго ў творы болей — светласці альбо песімізму? Каменціраваць вершы — няўдзячны, бязглузды занятак. Даказваць чыюсьці альбо ўласную любоў да Айчыны — і ўвогуле бестактоўнасць... Вось і дыялог наш з Рыгорам Барадуліным атрымаўся проста пра радзіму, яе ўчарашні і заўтрашні лёс. Мы меней гаварылі пра паэзію. Болей — пра палітыку. Праўда, яны ўжо перапляліся, так цесна звіліся ў клубок, што ні пад якім пражэктарам не разгледзіш паэзію асобна ад палітыкі. Як і ў палітыкі ёсць паэтычна-лірычная, мастацкая форма выяўлення. Але ж пра ўсё — у размове з народным паэтам Беларусі Рыгорам БАРАДУЛІНЫМ. Спярша толькі — невялікае, свайго роду бліц-апытанне.***

**— Рыгор Іванавіч, чаго вы больш за ўсё баіцеся ў жыцці?**

— Непрыемнасцяў. Яны мяне чакаюць.

**— Непрыемнасцяў па рабоце?**

— Ва ўсім. Я не настроены, што заўтра мне будзе добра.

**— Сэрца адчувае?**

— Так. І адчуванні заўсёды збываюцца.

**— Якая ў вас была мара ў маладыя гады?**

— Вельмі наіўная — убачыць надрукаваным сваё прозвішча. Я збіраў друкарскі шрыфт, звязваў з літар «Барадулін», намазваў чарнілам і рабіў адбіткі. Дужа было радасна. Пасля, з гадамі, я зразумеў, якая за гэтым, надрукаваным, прозвішчам стаіць адказнасць.

**— А што пакінула найбольшы адбітак за ўсе пражытыя гады на вашым сэрцы, у вашай душы?**

— Пячатка, хутчэй след — гэта мама. Я жыў і застаўся з мамай, з яе штохвіліннай прысутнасцю. Калі гаварыць пра зорку, то мая зорка — гэта мама. Яна ёсць мой космас.

**— Вам часта сніцца мама?**

— Рэдка. Але гэта самыя светлыя хвіліны жыцця. Мама рана памерла. А яшчэ малому гаварыла мне: «Ты мяне не бойся, калі я памру». Яна ніколі не праснілася дрэнна. Такой вось прыемнай аблачынкай. Мне заўсёды здаецца, што яна прыносіць адтуль добрыя весткі.

Маміна душа — адналюбка. Яна мяне гэтак жа моцна любіла. Болей так, як маму, я ніколі нікога не любіў, нікім так не даражыў. Праўда, цяпер у мяне ёсць самае любімае стварэнне — унучка Дамінічка.

**— Што вы збіраецеся перадаць у спадчыну сваім нашчадкам?**

— Я стараюся ў асноўным перадаць унучцы шчырасць і дабрыню. Мая дабрыня не зусім чыстая і незамутнёная. Гэта ж нараджаешся з добрым і чыстым сэрцам, а пасля запыльваешся на жыццёвых дарогах. І ўсё ж — шчырасць і дабрыню... І разам з тым я баюся, бо гэты свет, у якім пакідаю яе — не ведаю, калі гэта здарыцца, — ненармальны, жорсткі. Быць шчырым і добрым у гэтым свеце, на жаль, як ні сумна гаварыць, — небяспечна.

**— Значыць, дылема?**

— Ільготы, выгоды, даброты — усё гэта пыл... Але я пакідаю яе адну. Як дрэўца ў полі. А дрэўца ў голым полі, маленькае кволае дрэўца ў велізарным вятрыстым полі любы знішчыць, пастухі вогнішча развядуць. Гэта і хмарыць мой настрой. І нічога не зробіш — што я магу?! Толькі застаецца спадзявацца на Усявышняга, спадзявацца, што Бог — бацька.

**— Ёсць для большасці людзей і яшчэ адно вымярэнне існавання ў прасторы гэтага свету — адносіны з сябрамі і ворагамі ці, хутчэй, — сутыкненні з людзьмі, як з сябрамі і ворагамі. Ці шмат у вас сяброў?**

— Іх застаецца ўсё меней і меней, яны там зараз, дзе існуе вечнасць.

**— Здараецца так, што сябры пакідаюць вас, становяцца ворагамі?**

— Выпадковыя, так званыя сябры, яны, натуральна, адпалі, адляцелі, бы лісце з дрэў у восеньскую пару. Ворагі... З гадамі гэта, ведаеце, крышачку смешным здаецца. Я стаўлюся да тых, хто лічыць сябе маімі ворагамі, з усмешкай. Мала часу, няма душэўных сіл на нейкую марнату — змагацца з ворагамі. Іх, дарэчы, любяць камуністы і таталітарны рэжым.

**— Любяць?**

— Любяць ствараць. Патрэбна. Хіба ж не класічнае — спачатку стварыць цяжкасці, а пасля пераадольваць іх?..

❑

**— Рыгор Іванавіч, гэта ўсё апошнім часам навідавоку, што вы — народны паэт Беларусі, паэт-прафесіянал высокага класа, перакладчык, улюбёны ва ўсе мовы і літаратуры свету, займаецеся палітыкай. Ці не шкада вам на гэта часу?**

— Часу заўсёды шкада. Асабліва з гадамі, калі адчуваеш, што яго мала, мала, застаецца ўсё меней, меней... Але такая ўжо спецыфіка нашага жыцця, асабліва ў нашай дзяржаве Беларусь, што, як гавораць палякі, хоць пэнкнеш — ды мусіш. Проста займацца толькі паэзіяй — гэта будзе, з аднаго боку, проста здрадай. А з другога боку атрымліваецца сапраўды так, калі займаешся палітыкай, маеш нейкае да яе дачыненне — здраджваеш паэзіі. Тут пасярэдзіне нешта трэба шукаць. Увогуле, калі браць паэзію ў чыстым выглядзе, яна ў нейкай ступені палітызаваная. Сам чалавек ад свайго нараджэння палітызаваны. Так, не ў такой ступені, форме, якая вызначае свядомага, самастойнага ўдзельніка палітычнага жыцця. Адносіны чалавека да свайго суседа, да прыроды, да жыцця — гэта ўжо ёсць палітыка, я лічу. Само слова пасля з'явілася. Спярша быў чалавек. Латынь нам падказвае: «Чалавек ёсць сацыяльная жывёліна». Калі сацыяльная — значыць палітычная, палітызаваная. І прыходзіцца займацца. Безумоўна, у чыстым выглядзе я ніякі не палітык, я толькі маю нейкае дачыненне. Стараюся быць у палітыцы на ўзроўні слова, на ўзроўні свайго бачання свету. Палітыкам, калі вы ўжо мяне так ахрысцілі, застаюся тады, калі пішу артыкулы, рыхтую выступленні. Палітык — і ў жанры гумару. Часта пішу дурноты...

**— Значыць, паэт — усё ж такі палітык?**

— Так. І нават так званыя паэты ў чыстым выглядзе. Тым, што яны не ўдзельнічаюць у палітыцы, якраз удзельнічаюць... Вызваляюць тую нішу, якую займуць, магчыма, іх ворагі, ворагі іх чытачоў.

**— Дачыненне да палітыкі, мяркуючы па-барадулінску, — гэта і выкананне літаратурнай місіі?**

— Так склалася, што беларуская паэзія, беларуская літаратура з самага пачатку палітызаваная. У тым сэнсе, што яна змагалася і змагаецца за беларускасць, за беларускую дзяржаву і за беларускую мову. А яе ж увесь час... Беларуская мова унікальная, столькі яе часу душылі, знішчалі, а яна жыве. Як трава з-пад асфальту, як трава з-пад бетонных пліт на ўзлётнай паласе прабіваецца. І ўсё таму, што так дадзена ад Бога.

**— Але хіба не павінна ў паэзіі ў большай ступені, чым палітыка, прысутнічаць каханая, жанчына, маці?**

— Каханне, мама, жанчына, прырода — гэта аснова паэзіі. Дарэчы, паэт правяраецца не ў вершах на тэму любові да радзімы, паэт правяраецца ў першую чаргу на інтымнай лірыцы. Грамадзянская паэзія — больш халодная, больш жалезабетонная. Калі пісаць грамадзянскую паэзію, па-савецку кажучы, трэба рабіць цёпла, саграваць яе душою. У акцёраў ёсць паняцце «іграць з халодным носам», дык вось большасць грамадзянскай савецкай паэзіі — «з халодным носам». Пісалі па прынцыпу: «Пракукарэкаў, а сонца можа не ўзыходзіць». Інтымная лірыка, як тая лакмусавая паперка, што паказвае душу паэта, глыбіню яго пачуццяў.

**— Як жа тады быць з паэзіяй Маякоўскага ці Броўкі?..**

— Некалі я многіх пакрыўдзіў, гаворачы пра Маякоўскага, што ён — геніяльны крыміналіст. Ягонае богаборніцтва, нелюбоў да нацыянальнага (ёсць жа ў публіцыстычных артыкулах Маякоўскага: «горад рускі») — гэта ўсё парушала духоўны стрыжань паэтычных памкненняў. Дарэчы, вядомы такі прыклад. Калі Ясенін прыязджаў на Каўказ, то прасіў афішы пісаць па-расійску і па-грузінску.

**— Думаю, што ў гэтым праявілася проста элементарная павага да іншага народа.**

— Павага, так. Але ж Маякоўскі пісаў: «Хохол мне ответил: «Не чую». У Маякоўскім да канца жыцця застаўся савецкі велікадзяржаўнік. А Ясенін застаўся лірыкам, селянінам, земляробам у самым лепшым сэнсе гэтага слова. Вось Ясеніна я не ўяўляю калгаснікам. А Маякоўскі вёў тую самую лінію, што і Горкі, які ненавідзеў селяніна. Славілі рэжым — і ён іх загубіў.

Дарэчы, Броўка... Пры вонкавай трамбоннасці, здавалася б, звышпартыйнасці, ён заставаўся тонкім лірыкам. У Броўкі, як ні ў кога зараз, калі прайшоў час, можна выбраць шэдэўры сапраўднай лірыкі, прыродаапісальнай лірыкі. Адна цікавая дэталь. У Броўкі, Панчанкі, пасля — у Пысіна была самая лепшая паэзія ў вайну. А ў астатніх у нашых... Вайна выяўляла ў экстрэмальных умовах паэта. І Броўка па генетычнаму свайму коду не быў жа ўжо такім савецкім. Ён піў натуральнае малако, а не парашковае, ён помніў і касавільна, і плуг, ён ад сялян. Працаваў па сялянскаму прынцыпу: «Трэба памаліцца — памалюся». Я добра ведаю, што думаў Броўка не гэтак артадаксальна, як можна меркаваць адно толькі па напісанаму ім.

Самае крыўднае і цікавае, што ў цяперашніх маладых па генетычнаму коду перадалася савецкая селекцыя. І многія, калі крычаць, што яны супраць усяго савецкага, дзеяннямі сваімі пераконваюць, што яны — абсалютна больш савецкія, чым артадаксальны, здавалася б, партыйны Броўка.

**— І цэлая школа сучасных гарадскіх паэтаў, «талакоўцаў» і іншых — яны ў большай ступені бальшавікі, чым Броўка...**

— Так. У бальшыні сваёй — так. І яны нават не ўсведамляюць гэтага. Я не хачу агулам гаварыць... Яны не вінаватыя ў гэтым. Звярніце ўвагу і на «аксесуар». Сапраўды новаўвядзенне — так званая гарадская беларуская мова. А на якой мове пісалі Багдановіч і Купала? Што ёсць за такая гарадская мова?.. А ўзяць Пушкіна... А Ясенін на якой мове пісаў? Я часта гавару, што натуральная беларуская мова — гэта сырадой, а гарадская, як яны гавораць, — парашковае малако. Калі пасля натуральнага цяжка адмыць шклянку, то ад парашковага следу не застаецца.

Моладзь, паўтаруся, не вінавата. Бальшавікі парушылі генетычны код. Паскораная бальшавізацыя марна не прайшла. Трэба, пэўна, тры пакаленні, каб нарадзіліся новыя людзі, з нармальнымі мазгамі, з нармальным мысленнем.

**— Рыторыка, няшчырасць уласцівы не толькі паэзіі, але і палітыцы, многім граням і дзеям. Як гэта ні крыўдна — і беларусізацыі апошніх гадоў...**

— Абсалютна з вамі згодзен. Часам нават гавару пра тое, што ў нас ёсць і жаўрукі адраджэння, і крумкачы адраджэння. Апошнія жыруюць на гэтым адраджэнні. Некаторыя хутка памянялі лозунгі, памянялі кашулі. Сталінскую касаваротку — на вышыванку. Сталінскія галіфэ — на джынсы фірмы «Левіс». Наплыла такая каламутная вада. І ў ёй усё змікшыравана, пераблытана. Парою цяжка разабрацца. І парою трыбунна-пафасна-шчырыя беларусы, нават калі імі кіруе падсвядомасць, — большыя ворагі беларусізацыі, беларускасці, чым людзі звычайныя, адкрытыя. Можна любую ідэю перакруціць. І вы ведаеце, як абышліся камуністы з Хрыстовай ідэяй. Колькі апаганьвалі яе... Так і з беларускай ідэяй. Адраджэнцаў шчырых мала. Быкавых у нас адзінкі.

Тое ж і з гэтымі кішэннымі партыямі. Растуць бы тыя грыбы пасля дажджу. А не мухаморы часам яны? Незразумела, хто ставарае іх. Уражанне такое, што быццам усё робяць дзеля таго, каб заблытаць ўсё на свеце, народ заблытаць...

Больш таго — партыйкі тыя ствараюцца адным колам, адным цэнтрам, аднымі і тымі ж людзьмі. Спрацоўвае правіла: многа партый — высыпаны з рэшата, сявенькі гарох. Паспрабуй вярнуць назад кожную гарошыну, асабліва калі падлога дзіравая, а то і горш таго — земляная падлога калі ў хаце. Людзі-гарошынкі, партыі-гарошынкі — кожны і кожная ў сваёй шчыліне. Якая тут кансалідацыя? І вочы разбягаюцца, за кожнай гарошынай не ўгледзіш.

**— Рыгор Іванавіч, але ж і партыі павінны быць, і да беларускасці першага раду адраджэнцы заклікаюць масы, усіх заклікаюць. Іншая справа, што павінна быць нейкая свайго роду мяжа шчырасці і няшчырасці, павінна быць мяжа справядлівасці і несправядлівасці, сапраўднасці. Дзе яна праходзіць, як знайсці тую мяжу?**

— Мяжа павінна быць у самім чалавеку. Беларусь — у асаблівым становішчы. Нас вынішчалі. Лепшыя мазгі, галовы нацыі фізічна трушчыліся, іх перакуплівалі. Беларусь на працягу некалькіх стагоддзяў уяўляе велізарны кірмаш, дзе перакупляюць, дзе гандлююць, дзе ашукваюць. І беларусы — рабы. І нават не кірмаш, а рабскі рынак — вось што наша тэрыторыя.

Апошнія семдзесят гадоў вынішчалі найбольш старанна. Спярша — гаспадароў. Пасля — інтэлігенцыю. Застаўся змешаны люмпен. І мова — нейкі суржык. Гэта ж не мова, якой карыстаюцца тут... А калі гаварыць пра расійскую, то яна павінна рахунак прад'яўляць, што жыхары нашай тэрыторыі і яе псуюць. Здзек сапраўдны з расійскай мовы.

Вы пытаецеся, дзе мяжа? Згадаю такі прыклад. Беларускі мастак-эмігрант Барыс Забораў расказаў мне ў Парыжы гісторыю. Савецкі эмігрант, адкрыўшы бензакалонку, пачаў разбаўляць бензін вадою. Усе газеты, увесь Парыж, краіна абурыліся: «Нягоднік! Гэта ж ён зрабіў шкоду для матораў...» Я засмяяўся. Маўляў, французы ненармальныя — пытанне ставяць з ног на галаву. На самай жа справе ненармальныя мы. Разумееце, усё перакулена, перавернута.

**— Таму і фільм свой пра Васіля Быкава вы назвалі «Край перакуленых нябёсаў»...**

— Мы жывём у перакуленым свеце, перакуленым грамадствам жывём. Пакуль не паставім самі свой край так, каб неба было над галавой, а зямля пад нагамі, — нічога тут па-людску не атрымаецца. Ніякія ініцыятывы не дапамогуць. Уражанне, што народ наш замбіраваны. Гавораць, добра ў нас, вайны ў нас няма. А чаму яна павінна быць? У нас сітуацыя, блізкая да Масквы 1993 года, — такую ідэю падкідваюць з Масквы. А чаму наша сітуацыя павінна быць блізкай да маскоўскай?

І ўсё ж мяжа... Яна — сумленне кожнага з нас, кожнай чалавека-адзінкі.

**— Добра. Грамадства ў нас, па вашаму перакананню, усё яшчэ чакае...**

— Чакае так, як баланды ў лагеры чакаюць, ведаючы, што самі ні на што не здольныя. Некалі мама мая гаварыла, жартавала, што ёсць закон цыганскі: «Ёсць — жры, няма — мры». Ніхто не думае пра заўтрашні дзень. А Бог жа нам даў жыццё і галоўны абавязак — клапаціцца пра сябе. Адзінае, што Бог забараніў, — накладваць на сябе рукі. Жыццё — не ваша, не маё, а дадзенае Богам. Яго трэба бараніць, цаніць, над ім трэба рупіцца. Ад гэтага нас адвучылі. Мы ўсё чакаем, што нехта нам дасць што-кольвечы добрае.

**— Жыццё — выпрабаванне... Ваш рэцэпт, як вытрымаць яго?**

— Рэцэпты давалі некалі райкомы, абкомы, ЦК... Я не хачу даваць рэцэптаў. Чалавек, адно заўважу, часовы ў гэтым свеце. Жывучы сумленна, ён павінен рабіць дабро. І ўсё.

**— Вы верыце ў Беларусь? Ці будучыня наша ў песімістычным чаканні бачыцца вам?**

— Усё ж такі веру. Над нашай краінай — свая зорка, якая абараняе Беларусь, накіроўвае яе да незалежнасці, да дзяржаўнасці, да неад'емнасці ў Еўропе. У гэтым, відавочна, наш лёс. Нягледзячы на ўсе бядоты, мы, беларусы, народ трывалы.

**Гутарыў Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

## 15 КАСТРЫЧНІКА З АФІЦЫЙНЫМ ВІЗІТАМ У МІНСК ПРЫЕДЗЕ ЛЕНІ ФІШЭР, ПРЭЗІДЭНТ ПАРЛАМЕНЦКАЙ АСАМБЛЕІ САВЕТА ЕЎРОПЫ

Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Сямён Шарэцкі атрымаў ліст ад прэзідэнта Парламенцкай асамблеі Савета Еўропы Лені Фішэр, якая дала згоду прыехаць у Беларусь з афіцыйным візітам падчас сваёй паездкі па паўночных краінах Савета Еўропы. Запрашэнне ад імя кіраўніка беларускага парламента Лені Фішэр атрымала 20 чэрвеня, а ў канцы верасня члены беларускай дэлегацыі ў Парламенцкай асамблеі Савета Еўропы неаднаразова настойвалі на яе візіце ў Мінск.

Пані Лені Фішэр піша, што яна з задавальненнем сустрэлася б з кіраўніком беларускага парламента, а таксама лідэрамі большасці і меншасці ў Вярхоўным Савеце і членамі беларускай дэлегацыі ў ПАСЕ. Прымаючы пад увагу, што Беларусь падала заяўку на членства ў Савеце Еўропы, Лені Фішэр зазначыла, што яна хацела б сустрэцца з Прэзідэнтам Беларусі, прэм'ер-міністрам, кіраўніком Міністэрства замежных спраў.

Сямён Шарэцкі зазначыў, што адказаў на ліст пані Фішэр станоўча. Яна павінна прыехаць у сталіцу нашай краіны 15 кастрычніка, а 16-га яе ўжо чакаюць у Маскве. Суправаджаць яе будуць начальнік сакратарыята і кіраўнік канцылярыі Парламенцкай асамблеі Савета Еўропы.

Пасля станоўчага рашэння аб прыёме ў Савет Еўропы Харватыі, Беларусь застаецца адзінай краінай, якую могуць прыняць у гэтую арганізацыю ўжо ў бліжэйшы час. Таму пані Лені Фішэр вельмі важна азнаёміцца з сітуацыяй на месцы. У тым ліку і па прычыне ўнутранага беларускага канфлікту, аб якім беларускія парламентары заявілі ў Страсбургу падчас восеньскай часткі сесіі Парламенцкай асамблеі Савета Еўропы.

**Валер КАЛІНОЎСКІ.**



**На Беларусі няма правінцый. Ёсць, вядома, сталіца, ускраіны, адлегласць у кіламетрах, назвы станцый, будынкі, паўз якія праносяцца цягнікі. Знешняя атрыбутыка, скажам так.**

**Але можна і ў цэнтры Мінска пачуваць сябе жыхаром чыёйсьці ўскраіны. А можна сустрэцца з нечым упершыню і адчуць, што ты тут не зусім госць. Чаму імёны, твары, назвы — настолькі знаёмыя? Дзе мы ўжо сустракаліся? Калі?**

**Кожны мае ўнутры свой цэнтр свету. Ці нават Сусвету. Зрэшты, мае права мець, бо кожнаму — сваё.**

**А на Беларусі правінцый няма. Ёсць старонкі. Старонкі-куткі і старонкі, не прачытаныя дагэтуль. Ці хопіць на гэта ўвогуле жыцця чалавека альбо пакалення? Старонкі застаюцца — мяняюцца словы, а часам яшчэ і літары... І зямля наша заўсёды будзе для нас чароўнай кнігай: чым больш гартаеш і прыглядаешся, тым далей да канца. Хіба не так?**

**Нешта падобнае здарылася — на гэты раз — з Рагачоўшчынай. Вяртаючыся адтуль, я ўспомніла, дзе мы бачыліся раней. Але пра гэта потым...**



# ДНЯПРОЎСКАЕ РЭХА

❑

«...Візіт міру і дружбы пачаўся. Мікіта Сяргеевіч Хрушчоў прыбыў у Данію. Цёплая сустрэча ў Капенгагене», — сціпла і ўрачыста міргнуў з акна веранды час, пажаўцелы, як папера старых «Известий». 17 чэрвеня 64-га была, аказваецца, серада. Сёння — панядзелак, 96-ы, верасень. Надвячорак...

— На гарышчы, можа, яшчэ і сталінскія ёсць, — назірае гаспадар.

Гарышчы, дарэчы, — рэч цудоўная. Амаль архіў! У гадоў восем, памятаю, пад дахам вясковай хаты я чытала падручнікі для школ, выдадзеныя перад вайною і пасля. Яны былі цікавейшыя за мае: побач са словам «Ленін» у некаторых стаяла яшчэ адно, а вершы, якія пазней усе забылі, увесь час дзякавалі... Хто такі і што такое Сталін? Па кніжках было відаць: нешта вялікае, але ніхто з дарослых чамусьці не стаў тлумачыць малой, што іменна.

Вельмі, вельмі было тады крыўдна — па-дзіцячы... Гэта цяпер можа здацца смешным.

Мы — у Дняпроўскім. Тут быў калісьці вялікі, людны пасёлак, цэнтр калгаса. Спрабую ўявіць тое, пра што расказваюць старыя яго жыхары... Шмат-шмат моладзі — уяўляю. Па начах было ў хату нікога не загнаць — таксама. І гэты лес, што сёння чаруе цішынёй, звінеў галасамі. «Якія былі галасы! Нідзе такіх больш не было. Нас пазнавалі, калі ішлі ў суседнюю вёску, яшчэ з-за лесу», — твар Марыі Паўлаўны Драгуновай свеціцца. І я ўяўляю, як кажуць у суседніх Кісцянях: «Спяваюць? Ну то гэта дняпроўцы да нас ідуць!». Перад імі ўсюды ішло над Дняпром вясёлае рэха...

Не толькі тут, у пасёлку — паўсюль старэйшае пакаленне звычайна ўзгадвае: жылі весела. Праўда, бедна. Але на беднасць ніхто ўвагі не звяртаў. Проста жылі... Тут сучасныя ўяўленні нашыя хістаюцца, бо, напэўна, нам ніколі не ўявіць па-сапраўднаму ступень беднасці і весялосці, як не перанесці на свае пачуцці іх суадноснасць. Можна, вядома, шкадаваць народ у цэлым і канкрэтных людзей, чыя маладосць прыпала на 30—40-я, «жалезныя» і «вогненныя». А можна ім пазайздросціць і імі захапляцца: яны змаглі проста жыць і, каб не пражылі, мы б цяпер не змаглі бачыць гэтыя старонкі...

У Дняпроўскім стаіць недзе восем хат. Дзе астатнія? Куды падзеліся? Шмат разбурылі ў вайну, частку прадалі, а потым разабралі. Яшчэ частка «як скрозь зямлю правалілася»: «немцы з іх рабілі бункеры».

— Гэта як?

— О, — здзіўляюцца старыя, — вы і не ведаеце, што гэта такое?! — коратка тлумачаць і дадаюць: — Дай Бог і не зведаць! — Усё насельніцтва пасёлка, што сабралася ля брамы двара, тут аднадушнае. Спрабую ўявіць гэтыя ўсмешлівыя, прыветныя, з адбіткам годнасці нязломнага духу твары ў іхняй маладосці. Якія ўсё ж прыгожыя людзі ў нас! І, Божа мой, нягледзячы ні на што — якія вясёлыя!

Такі ўжо народ наш: што б там ні здарылася, смяецца да канца. Хоць смяяцца, бывае, ужо немагчыма і іншы б не змог. А мы вось — можам!

Акуратненькая хатка, упарадкаваны агарод. Нейкая жалезная рэч, прыхіленая да плота, глядзіцца акурат на сваім месцы. Рэч аказваецца... кавалкам самалёта: ці бакам, ці нечым яшчэ. «Знайшлі недалёка», — тлумачаць нам. Самалёт быў збіты ў вайну, і шмат гадоў выцвілы бак безгаспадарча праваляўся недзе ў лесе. Цяпер прыдаўся ў



ветэранскай гаспадарцы для зусім мірных мэтаў.

Праз вуліцу — высокія сосны, да Дняпра метраў 130. Гэтай адлегласці некалі так баяліся нямецкія войскі. Лясок быў яшчэ густейшы, але яго загадалі ссячы да апошняга дубца — каб бачыць «чырвоных»... І тут, на кручах вялікай ракі, быў страшны бой — шмат палягло нашых людзей... А зусім побач шумяць вялікія лясы, дзе была калісь партызанская зона. Кісцяні, Ціхінічы, Залоззе... Сюды ў 43-м накіравалася група чалавек з дваццаці, якую разведка прапусціла ў тыл немцаў. «У двух месцах іх абстралялі, у трэцім удалося прабрацца праз балота», — Васіль Мікалаевіч Драгуноў разам з такімі ж 14—15-гадовымі хлапчукамі стаў, як ён кажа, «прасіцца ў партызаны». З 25 чалавек узялі яго аднаго (конкурс як бы такі атрымаўся: як пры паступленні ў вельмі прэстыжную ВНУ, і то не кожную). У пятнаццаць гадоў гэты чалавек прымаў прысягу. Вось яны, універсітэты нашых дзядоў! Магчыма, пад уражаннем таго маўчання вакол таямнічага Сталіна, адкапанага на гарышчы, але я ніколі не верыла, што ў напаўдзіцячым узросце нашыя дзяды змагаліся за правадыра. Па-мойму, любы чалавек ва ўсе часы змагаўся за радзіму: сваіх бацькоў, дзяцей, вось гэтыя сосны, Дняпро... Усё, што з імі і вакол іх аб'ядноўвае.

І зноў здзіўляюць гэтыя людзі. Вось той жа Васіль Мікалаевіч: узяў і пралажыў сабе... водаправод. Амаль сто з лішнім метраў на метровай глыбіні ідзе шланг ад крыніцы. У пасёлку больш вады няма. А крыніца нават у лютыя маразы не замярзае.

Ёсць зімой іншая праблема. Снег. Не смешна, між іншым: снегу шмат, а дарогу, чатыры кіламетры да бліжэйшага магазіна, часам чысцяць так... Карацей кажучы, ветэранам, інвалідам вайны, сама і хадзіць! «Маладым усюды ў нас дарога», а старым у нас адзін «почёт»... Але ж сыты ім не будзеш, трэба схадзіць па хлеб у суседнюю вёску! Адна бабуля ўспамінала, сама пасмейваючыся, як ішла ад доктара і несла рэцэпт на лекі: у снег як кульнулася, уся прамокла, і рэцэпт з ёю прамок таксама. Хутчэй выпаўзла да хаты ды на печ, якія ўжо тут рэцэпты?!

Між іншым, на Гомельшчыне ледзь не самыя роўныя ва ўсёй Беларусі, па-гаспадарску выпешчаныя аўтатрасы. Але хочацца праехаць па іх зімой, каб разам з гэтымі старымі правалiцца ў снег па дарозе ў Дняпроўскі. Альбо не правалiцца. Паглядзім... Дарэчы, можна было б паспрабаваць (не мне, а мясцоваму начальству) прывозіць да старых дняпроўцаў хлеб аўталаўкай. Зімою хаця б. У чарнобыльскай зоне да самасёлаў, што вярнуліся дамоў, аўталаўка ездзіць раз на тыдзень ва ўсе поры года. А гэтыя старыя чым горшыя?

Увогуле, на Гомельшчыне ўжо не раз даводзілася чуць пра чарнобыльскі хлеб. Калі мясцовым казалі ў крамах: «Хлеб ёсць, але хопіць толькі для «чарнобыльцаў». Астатнія нават не стойце». Цяпер, здаецца, з агульнай бядой і агульным шляхам ад Чарнобыля неяк утрэслася. Прынамсі, тут, на старым Дняпры, «дзядулі» нашай Свіслачы, да якога ўрэшце дабягаюць яе хвалі.

...Напаследак просім дзеда Васіля паказаць нам Крыцкую гару. Едзем... Натурысты Дняпро сцішыўся, нібы прыгладжаны па хвалістых віхрах цішынёй вераснёўскага вечара. Прываражвае цішыня нячутным рэхам.

Дом пана Крыцкага, у якім пасля 17-га года была бальніца, разбамбілі ў вайну. Гара ўся ў зарослых травой і хмызняком траншэях. На беразе пад самым абрывам — норкі стрыжоў. У вадзе над рэшткамі камянёў ля вады — месяц. Амаль поўня. «Камяні тут са старажытных часоў, ды шмат павывозілі на будоўлі»... Салодкая шыпшына, паветра са смакам халоднай гарбаты... І белая постаць над галавой. Бярозка, схіленая наравістымі паводкамі. Яшчэ крок, і паляціць з абрыву. Можа, ужо ў наступную вясну. А карані панясе вада. Ці частка ўсё ж у зямлі застанецца?.. Бо на гэтай зямлі не бывае інакш!

**Таццяна СНІТКО.**
**Фота Віктара ДРАЧОВА.**

***СІТУАЦЫЯ***

## Як гродзенская гарэлка «выштурхнула» з мясцовага рынку айчынных канкурэнтаў

З ДАЕЦЦА, яшчэ нядаўна ў Гродне меўся даволі неблагі, па нашых мерках, выбар беларускай гарэлкі. Хочаш — купляй 40-градусную з мясцовага лікёра-гарэлачнага завода, аддаеш перавагу мінскай, брэсцкай альбо віцебскай прадукцыі — калі ласка. Пакупнікі да гэтага ўжо прызвычаіліся. І раптам канкурэнтаў з іншых рэгіёнаў краіны ў горадзе над Нёманам не стала, зніклі. Нават нешматлікія фірменныя аддзелы сталічнага «Крышталя» і тыя цяпер гандлююць выключна мясцовай гарэлкай. А паколькі на гэтыя гандлёвыя кропкі арыентавалася пэўная частка кліентаў, рэзка зменшыліся аб'ёмы рэалізацыі. Па вялікаму рахунку яно, можа, і лепей. Хаця, з іншага боку, ужо не аднойчы даказана, што ад штучных абмежаванняў нічога, акрамя шкоды, не будзе.

Зрэшты, ніякіх абмежаванняў адносна колькасці спіртнога ў крамах няма. Пытанне толькі ў тым, на якой жа падставе пакупнікоў пазбавілі права выбару паміж гродзенскай і іншай айчыннай гарэлкай? Чым правініліся на рынку Прынёманскага краю мінскі «Крышталь» і брэсцкая «Беларусь»? Ці мо гэтыя вырабы горшыя за гродзенскі «Стары замак»?

Трэба сказаць, што «Стары замак», па некаторых ацэнках і спецыялістаў, і радавых спажыўцоў, гарэлка сапраўды нядрэнная. Яна дэманстравалася нават на выстаўцы, якую Аляксандр Лукашэнка наведаў падчас свайго нядаўняга прыезду ў Гродна. Дырэктар завода прапанаваў пастаўку гэтай гарэлкі ў сталіцу для адпаведных мерапрыемстваў на дзяржаўным узроўні. Відавочна, што любы кіраўнік, які гарантуе Прэзідэнту якасць сваёй прадукцыі, ведае, што гаворыць. Прашу не лічыць вышэйсказанае рэкламай. Проста што ёсць — тое і ёсць. Але разам з гэтым трэба канстатаваць іншае. Яшчэ пару гадоў назад гродзенская гарэлка не вытрымлівала ніякай крытыкі, прынамсі, многія пакупнікі гэту марку зусім не паважалі. Таму і сёння, калі зрухі да лепшага відавочныя, шмат хто з гродзенцаў аддае перавагу іншым айчынным вырабам. Такое права, згадзіцеся, у іх ёсць. Што ж датычыць вытворцаў, дык працаваць ва ўмовах жорсткай канкурэнцыі, само сабой, няпроста. Аднак іншага цяпер не дадзена, паколькі талонаў на спіртное ўжо няма, а значыць, трэба ў сумленным спаборніцтве з канкурэнтамі пераконваць пакупніка, што твая прадукцыя лепшая. Менавіта ён, пакупнік, тут галоўны суддзя. Але, аказваецца, не заўсёды.

Як патлумачыў карэспандэнту «Звязды» намеснік начальніка Гродзенскага абласнога ўпраўлення гандлю Багдан Грынявецкі, сітуацыя, якая склалася на гарэлачным рынку вобласці, часовая. Канфіскавана буйная партыя «левага» спірту, цяпер ён перапрацоўваецца на мясцовых прадпрыемствах. Таму вырашана прыпыніць завоз гарэлкі з іншых рэгіёнаў краіны, каб забяспечыць «зялёную вуліцу» сваім вырабам і за кошт акцызнага падатку, які застанецца ў вобласці, папоўніць мясцовы бюджэт — у прыватнасці, разлічыцца з даўгамі па зарплаце настаўнікам, медыкам. Адпаведнае распараджэнне ўладаў датычыць кіраўнікоў гандлёвых арганізацый усіх формаў уласнасці.

Вядома, гродзенскую «вертыкаль» трэба зразумець. Можна шмат разважаць аб тым, што матэрыяльнае становішча работнікаў бюджэтнай сферы не павінна так моцна залежаць ад аб'ёмаў продажу гарэлкі, што ўсё гэта ўжо было ў мінулым. Аднак сённяшнія рэаліі такія, што іншых крыніц фінансавання катастрафічна не хапае і вінаваты ў гэтым далёка не толькі аблвыканкомаўскія чыноўнікі. За выплату ж даўгоў спытаюць менавіта з іх. А тут вобласці дастаецца практычна дармавы спірт, можна залатаць хаця б некаторыя дзіркі ў бюджэце.

Як жа адрэагаваў гандаль на новую «гарэлачную палітыку»? Ён падпарадкаваўся. Хаця некаторыя прадпрыемствы — не адразу. Напрыклад, фірма «МОКА», па словах яе камерцыйнага дырэктара Ларысы Кахоўскай, пракансультавалася ў юрыстаў і прыйшла да высновы, што гарвыканкомаўскае распараджэнне можа мець толькі рэкамендацыйны характар. Аднак судзіцца з уладамі камерсанты не адважыліся, праўда, яшчэ партыю «Крышталя» ўсё ж закупілі. Пасля чаго атрымалі ад выканкома «прачуханку». «МОКУ», а таксама фірмы «Гандлёвы дом «Нёман», «Няміга-Фаварыт», «Верасень», СГКП «Прагрэс» папярэдзілі, што «ў выпадку паўтарэння падобных фактаў прадпрыемствы будуць пазбаўлены ліцэнзіі на рэалізацыю віна-гарэлачных вырабаў». Пашанцавала яшчэ, што ўлады дазволілі прадаць рэшткі раней закупленай «чужой» гарэлкі.

Што ж далей? Хочацца спадзявацца, што грошы, атрыманыя ад рэалізацыі мясцовай гарэлкі, дазволяць гродзенскаму бюджэту хаця б часткова разлічыцца з даўгамі. Па некаторых прагнозах, сённяшняя сітуацыя з манаполіяй гарэлкі ўласнай вытворчасці захаваецца на Гродзеншчыне да канца сёлетняга года.

І апошняе. У вышэйпамянёным распараджэнні Гродзенскага гарвыканкома быццам бы прысутнічае і клопат аб тых, хто да гарэлкі абыякавы — і гродзенскай, і брэсцкай, і мінскай. Такіх людзей нямала. Таму цалкам справядліва, што прадпрыемствам гандлю пры заключэнні кантрактаў раяць арыентавацца на ўвоз высакаякасных каньячных вырабаў, марачнага мацаванага і сухога віна. Ды толькі не па кішэні пераважнай большасці нашых грамадзян гэтыя напоі. Прычына ў каласальных пошлінах і падатках, якія «накручваюцца» на іх першапачатковы кошт. У выніку замежныя вырабы, трапіўшы з той жа Германіі на беларускі прылавак, даражэюць проста ашаламляльна. Параўноўваць сярэдні заробак жыхароў нашай краіны і немцаў даволі, мякка кажучы, сумна. Міжволі задумваешся: якую ж айчынную прадукцыю мы абараняем такімі падаткамі? Няўжо «Раніцу» ці «Адпачынак»?

**Барыс ПРАКОПЧЫК.**

# «КУПІЦЕ КУМПЯЧОК!»

## НАТАТКІ НАВАСПЕЧАНАГА МЯСНОГА БІЗНЕСМЕНА

Ну ВОСЬ, нарэшце, і збылося-здзейснілася тое, аб чым марылася ўжо даўно. Журналіст мяняе прафесію... Вядома, крыху не так, як уяўлялася на лекцыях журфакаўскіх выкладчыкаў, калі, седзячы ў аўдыторыі з шырока раскрытымі вачыма, малявала ў думках, як, прыкінуўшыся жабрачкай, мурзатая і абарваная, сяджу на прыступках падземнага пераходу, а пасля пішу пра гэта геніяльны нарыс з працягам у некалькіх нумарах. Ці, скажам, уладкаваўшыся прыбіральшчыцай у вялікі гандлёвы цэнтр, дапамагаю праваахоўным органам рассакрэціць грашовыя махінацыі начальства...

На самай справе, як часта бывае ў гэтым жыцці, усё адбылося значна прасцей. Праўда, нашмат натуральней. Прыйшлося забыцца на час пра сваю асноўную прафесію не дзеля матэрыялу, а дзеля дапамогі сваяку. Ён зарэзаў свінню і вырашыў прадаць яе на базары нашага райцэнтра. Ён і жонка працуюць настаўнікамі, а верасень для настаўнікаў, як ужо даўно вядома,— самы галодны час. Адпускныя за лета даўно растрачаны, а да зарплаты, якая будзе (а хутчэй за ўсё — наўрад ці) у канцы месяца, яшчэ дажыць трэба. Сваяк, каб неяк пратрымацца на невялікія адпускныя, якія і выплачваліся па частках, і сёе-тое купіць сабе і дзвюм дочкам да школы, вазіў амаль штодня прадаваць у Мінск малако. Але пахаладала, карова гэтага малака стала даваць менш, і адзіная больш-менш пастаянная крыніца папаўнення сямейнага бюджэту знікла. Тут і прыйшлося ўспомніць пра іншых насельнікаў хлява, у прыватнасці, пра даволі вялікую лапавухую свінню, якая ўжо з год рохкала ў загародцы і з'ядала штодня значную колькасць бульбы і мукі... Карацей, лёс гэтай жывёліны быў прадвырашаны. Пакінуўшы сабе толькі адзін кумпяк, усе астатнія часткі беднай дзюдзі сваяк пагрузіў у багажнік сваіх старых дабітых «Жыгулёў», каб раніцай у суботу везці на базар.

Настаўнікі — не гандляры, і вопыту амаль ніякага няма, таму ў памочнікі запрасілі мяне. Вопыту ў мяне, як можна здагадацца, было яшчэ меней, але ўтраіх усё ж смялей і больш надзейна. Я з радасцю згадзілася, бо бываць з другога боку прылаўка яшчэ ні разу не даводзілася.

І вось ноччу, глухой цёмнай восеньскай ноччу, я сядзела ў «Жыгулях», якія імчалі ў напрамку райцэнтра, і, злосна пазяхаючы, думала, навошта перціся на базар гэтак рана (была палова трэцяй). Сваяк патлумачыў, што трэба заняць чаргу на ветэрынарны дагляд, які пачынае працаваць з шасці. На маё здзіўленне, калі мы прыехалі на месца гадзіны ў тры, чарга ўжо была. Стаялі тры машыны і сядзеў каля сцяны мясцовы дзядзька — ён трымаў чаргу знаёмаму, што меўся прыехаць. Дзесьці праз паўгадзіны давялося адзначыць, што спяшаліся мы недарма: машыны сталі пад'язджаць адна за адной. Пад раўнамерны гул матораў і галасы прыязджаючых я задрамала, а потым і заснула на заднім сядзенні, прымасціўшыся акурат каля вялікай міскі, у якой ляжала лапавухая свіная галава (яна не ўлезла ў багажнік)...

Прачнулася я ад крыкаў — яўна нехта сварыўся. На двары былі яшчэ прыцемкі і церушыў дробны дожджык. Было крыху больш як шэсць гадзін. Баючыся не ўбачыць, як адбываецца веткантроль, накіравалася да дзвярэй «чорнага ўваходу» мясного павільёна (калі можна назваць гэтым гучным замежным словам драўлянае збудаванне, больш падобнае на гумно ці свіран). Там сабраўся цэлы натоўп, усе нешта крычалі, піхаліся, ледзь на біліся. Аказалася, што пастаянныя гандляры — перакупшчыкі, якія купляюць таннае мяса ў калгасах, а потым на базары прадаюць яго ўдвая даражэй, прыехаўшы ўжо раніцай, выцеснілі з чаргі гандляроў выпадковых — людзей, якія прывезлі прадаваць сваё свінчо і мерзлі пад дажджом у гэтай самай чарзе ледзь не цэлую ноч.

Але вось нарэшце трапілі ў павільён і мы. Мяса праверылі пад мікраскопам, на ўсе кавалкі паставілі тлустыя фіялетавыя штампы. Можна было ісці займаць месца на прылаўку. Тут мы і парадаваліся, што паехалі ўтраіх: сваяк цягаў мяса на прылавак, яго жонка атрымлівала вагі і разлічвалася (за сто пятнаццаць кіло мяса, якое мела намер прадаць, яна заплаціла сто пятнаццаць тысяч), а я пільнавала, каб хто-небудзь з ранніх пакупнікоў, якія ўжо хадзілі паміж радамі, нічога не звалок.

Месца нам дасталося, мякка кажучы, не вельмі — з самага пачатку даўжэзнага, на ўвесь павільён, прылаўка. З аднаго боку была сцяна, з другога спрытна завіхалася маладая вясковая кабета. Жвавая і гаваркая, яна раз-пораз падганяла свайго крыху цельпукаватага мужа, які амаль моўчкі выконваў усе яе загады. Ад гаваркой жанчыны хутка даведаліся, што яны таксама прыехалі на базар упершыню і таксама амаль не ведаюць, як гэта гандляваць. «Нічога, калі што якое — у іх папытаемся»,— паказала наша суседка на мужчын, што раскладвалі свой тавар збоку ад яе, далей па ходу прылаўка. У тым, як яны дзелавіта развешвалі на круках кумпякі, як раскладвалі на прылаўку мяса, адчувалася ўпэўненасць. Белы, амаль чысты халат, які апрануў адзін, вусаты, дапаўняў уражанне таго, што яны на базары не ўпершыню. Прыгледзеўшыся, я пазнала ў вусатым аднаго з тых перакупшчыкаў, якія выклікалі скандал перад уваходам на веткантроль.



Фота Мікалая АМЕЛЬЧАНКІ.

Што мы і нашы суседзі зусім не ўмеем гандляваць, пацвердзілася адразу. І мы, і яны прывезлі на базар вялізныя кавалкі, якія трэба было яшчэ пасекчы. А секчы, як давялося прачытаць на плакаце, у павільёне мае паўнамоцтвы толькі секар. Так што давялося сядзець і чакаць гэтага самага секара, у той час як нашы суседзі-перакупшчыкі ўжо прадавалі свае першыя кілаграмы. Нарэшце ён падышоў, знешне зусім не падобны на прадстаўніка сваёй прафесіі, толькі вялізная сякера ў руках ды плямы крыві на халаце сведчылі пра яго прафесіянальную прыналежнасць. Але пад халатам — прыстойны касцюм, свежая кашуля. Твар з тонкімі рысамі, зусім не «мясніцкія» рукі. Махаў ён цяжкай сякерай на дзіва лёгка і спрытна, а на твары ў гэты час іграла нейкая летуценная ўсмешка і чыталася задавальненне... Падумалася: а можа, гэта не асноўная яго прафесія, можа, чалавек так забаўляецца па выхадных? Хацела спытацца, але вельмі ўжо захоплена ён працаваў, вырашыла зрабіць гэта пасля, калі ён вызваліцца...

Пачалі падыходзіць першыя пакупнікі, пытаць пра цану. А цаны мы і не ведалі! Суседка, жвавая кабета, спыталася ў вусатага, акуратна запісала ўсё на паперцы, дала і нам перапісаць. Сваяк недаверліва паназіраў за тым, як пакупнікі, пачуўшы нашу цану, адразу адыходзяць, і пайшоў па радах, нібыта сам пакупнік. Адтуль ён прынёс вестку, што сярэдняя цана на базары на пяць тысяч меншая, чым сказаў нам вусаты. Мы скінулі не пяць, а сем тысяч, і адразу каля нас пачалі спыняцца людзі. Вусаты коса пазіраў збоку, як бойка ідзе ў нас гандаль, а потым, убачыўшы, што наш мужчына адлучыўся, накіраваўся да нас. Ветліва, занадта ветліва, сказаў, што ў нас вельмі якасны тавар і што, каб не прагарэць, мы павінны прадаваць яго на сем тысяч даражэй. У гэты час ён амаль па-прыяцельску моцна сціскаў маю руку вышэй локця... Я яму гэтак жа па-прыяцельску, ціха і ветліва паведаміла, што наша цана — не яго сабачая справа, і параіла ісці на сваё месца і сачыць за сваім напарнікам, які можа яго абакрасці... Словам, мы адзін аднаго зразумелі... У кожнага чалавека, напэўна, жыве ў падсвядомасці гандляр, які ў пэўны момант гатовы выдзерці вочы канкурэнту за свае інтарэсы.

Гандаль пайшоў бойка. Пакупнікі ішлі суцэльнай плынню. Мы ледзь паспявалі рэзаць, важыць, лічыць грошы. Праўда, не ўсе спыняліся каля нас, ішлі далей, прыцэньваліся, выбіралі... Мяса ў тую суботу было шмат. Адна бабуля абышла ўсе прылаўкі тры разы, нічога не купіўшы. Але яна так надакучыла гандлярам, чапляючыся да кожнага і прапануючы прадаць ёй мяса па больш нізкай цане, прычым не просячы, а нават настойваючы, што яе ў рэшце рэшт проста вывелі з павільёна.

А потым настала зацішша. Людзей у павільён заходзіла ўсё менш і менш. А мяса засталося яшчэ ці не палова. Ад пастаяннага стаяння анямелі ногі і спіна, і мы з мужам гаваркой кабеты, пасцяліўшы нейкую дзяружку, прыселі на калодку, на якой seклі мяса. Яго жонка ўсё яшчэ бойка рэкламавала сваю прадукцыю, прапануючы да чатырох купленых у яе свіных капыцікаў бясплатны хвост. Урэшце яна знайшла пакупнікоў, добра апранутых мужчын, якія, здалося, зацікавіліся не столькі бясплатным свіным хвастом, колькі вялікімі вачыма ды румянымі свежымі шчочкамі гандляркі. Муж ніяк не рэагаваў на іх заляцанні, толькі задаволена ўздыхнуў, убачыўшы ў руках у жонкі грошы... Да нашага прылаўка таксама сёй-той падыходзіў, і тады даводзілася ўскокваць з месца і прапаноўваць-прэзентаваць свой тавар. Калі ж перспектыўная пакупніца, выслухаўшы нашу тыраду аб выдатнай якасці прапануемага, адварочвалася і ішла далей, я адчувала, што мой заўсёдны філантрапічны дэвіз «Я люблю вас, людзі!» страчвае сваю актуальнасць...

Потым пакупнікі амаль зусім зніклі. І стомленасць брала сваё. Ужо не ўскоквалі і не беглі да тых, хто падыходзіў, а толькі прапаноўвалі з месца амаль жаласліва:«Купіце кумпячок!» Сусед, седзячы на калодцы, злосна сказаў, папыхкваючы цыгарэтай: «Шкада, што ніхто не памёр». Заўважыўшы, што я здзіўлена на яго пазіраю, патлумачыў: «Прыехалі б тады сюды і купілі б на пахаванне ўсё наша мяса»... — «Чаму не на вяселле?» — спытала я. Цяпер ужо ён глядзеў на мяне здзіўлена. Мабыць, такая думка проста не прыйшла яму ў галаву...

За прылаўкам насупраць мужыкі дапівалі (па падліках сваячкі) ужо трэцюю пляшку гарэлкі. Яны гандлявалі ялавічынай, амаль нічога не прадалі, але гэта іх мала турбавала. У канкурэнтаў-перакупшчыкаў гандаль таксама ішоў слаба, толькі адзін з іх «купіў« у бабкі свайму дзіцяці беленькія пушыстыя шкарпэткі, адрэзаўшы за іх бабцы зусім-зусім маленькі — на раз з'есці — кавалак мяса. Але перакупшчыкі не хваляваліся, бо ведалі: тое, што не прададуць сёння — пойдзе заўтра, не заўтра — дык паслязаўтра. Яны заўсёднікі базара і гаспадары становішча.

Нарэшце і мы, і нашы суседзі з горам папалам усё (ці амаль усё) прадалі. Выходзячы з-за прылаўка, сустрэлі секара, які сядзеў у адной кампаніі. Быў ён ужо добра «дзюбнуўшы»: інтэлігентны твар пачырванеў, разумныя вочы памутнелі. Ахвота распытваць яго аб прафесіянальным захапленні раптам прапала...

Калі выйшла туды, дзе ходзяць пакупнікі, аказалася, што павільён не такі ўжо цесны і цёмны, як здалося там, з другога боку прылаўка. А выйшаўшы на вуліцу, упершыню пашкадавала прадаўшчыцу бананаў: ёй жа яшчэ, беднай, да вечара стаяць...

Нядаўна давялося таксама быць на базары. Пакупнікі ўжо амаль усе разышліся. Прайшлася па мясным радзе. З цікавасцю глядзела на твары гандляроў: той нахабны, той задаволены, той насцярожаны, уяўляла, якой бачылі пакупнікі мяне... Раптам ціхі голас з-за прылаўка: «Купіце кавалачак». Жанчына інтэлігентнага выгляду, на ёй неяк нязграбна сядзіць рабочая куртка, на твары — нязвыклая стомленасць. «Вы, пэўна, першы раз гандлюеце?»— спытала ў яе. — «Так, упершыню...» І хоць не патрэбна мне было тое мяса, і класці яго не было куды, усё ж купіла ў яе невялікі кавалак. Калі можна так сказаць, з пачуцця салідарнасці.

**Алена ЛЯЎКОВІЧ.**

*РЭПАРЦЁР АТРЫМАЎ ЗАДАННЕ...*

# ... ЦЁПЛА АПРАНУЦЦА НА ЗІМУ

Вельмі шмат не знайдзецца... ВЕРАГОДНА, не шмат знойдзецца людзей, якія гатовы паклясціся ў сваёй любові да асенняй пары года. Ды і падстаў для яе, скажам, малавата: зацяжныя дажджы, пранізлівы вецер і сырасць ніяк не садзейнічаюць такім прызнанням.

Безумоўна, калі табе холадна, узнікае натуральнае жаданне апрануцца цяплей, але як апрануцца як мага цяплей і не ператварыцца адначасова ў шэрую невыразную масу — вось дзе сапраўды праблема. Калі вы ўсё ж такі пажадаеце захаваць сваю індывідуальнасць і ў асенне-зімовы сезон, то падрыхтуйцеся вылажыць кругленькую суму грошай. Прычым у гэтым выпадку часу на дзяржгандаль лепш не траціць — прадстаўлены там асартымент тавараў асаблівага аптымізму не выклікае. Пакінем без увагі таксама фірменныя секцыі «імпартных» магазінаў — простаму чалавеку кашалёк наведаць іх, на жаль, не дазволіць. Вось і выходзіць, што пры ўсім «багацці» выбару ў нас прамая дарога — на сталічны рэчавы рынак «Дынама» (трэба заўважыць, што рэчавыя рынкі ў мікрараёне «Малінаўка» і Ждановічах адрозніваюцца ад яго хіба што месцаразмяшчэннем, але ніяк не сваімі цэнамі). Тут ёсць на чым спыніцца воку.

Прадстаўлены на рынку абутак можа задаволіць які хочаш густ: так, цэны на жаночыя чаравікі (асеннія і зімовыя) вар'іруюцца, у залежнасці ад матэрыялу і краіны-вытворцы, ад 25 да 70 долараў ЗША. Калі ж хтосьці з жанчын аддае перавагу традыцыйным ботам, то за «звычку» ім прыйдзецца, адпаведна, і больш заплаціць: 70—130 «зялёных» — такая цана аўстрыйскага і фінскага абутку на натуральным футры. Мужчынам у гэтым плане пашанцавала крыху больш: за 30—35 $ на «Дынама» можна набыць цёплыя мужчынскія туфлі-чаравікі. А вось на дзіцячы абутак лепш не заглядвацца, таму што цэны на яго, у прамым сэнсе слова, «кусаюцца»: мяркуйце самі, ці кожны бацька зможа выдзяліць свайму дзіцяці 20—30 $ на пару асенніх чаравікаў з натуральнай скуры і 30—40 $ — на зімовы абутак, улічваючы, што больш за адзін сезон ён на нагах дзіцяці «не затрымліваецца».

Глядзім далей, што яшчэ пад сілу «адолець» пакупніку: шарсцяныя штаны (жаночыя і мужчынскія) каштуюць дзесьці 30 $, пуловеры — 15—30 $, цёплыя мужчынскія кашулі (байкавыя і баваўняныя) — 25—30 «зялёных». Між іншым, выбар менавіта гэтай прадукцыі на рынку зусім не багаты, так што паарыгінальнічаць у выбары мадэлі вам наўрад ці ўдасца. Магчыма, што сезон у камерсантаў пакуль не наступіў і гандаль яшчэ не перайшоў на асенне-зімовыя «рэйкі». Што ж, не за мяжой жывём дзе зімовымі таварамі гандлююць летам і наадварот. Прымаўка «рыхтуй сані летам, а калёсы — зімой» у нашым гандлі яшчэ не прыжылася, так што, пакупнік, з рэчаіснасцю лепш змірыся.

Але, бадай, самы магутны ўдар па кашальку заўсёды наносіць пакупка верхняга адзення, і калі вы на працягу пэўнага часу не рыхтаваліся да ўдараў «цяжкай артылерыі» і не паднакапілі грошай, то тады сапраўды вам прыйдзецца цяжка. Жаночыя плашчы (больш простыя) абыдуцца пакупніцам у 45—60 $, з падшпількай — у 65—80 $; кашаміравыя мадэльныя асеннія паліто (мужчынскія і жаночыя) — у 150—230 $. Больш простыя можна набыць хіба што курткі па цане 30—60 $, фасоны якіх, па праўдзе кажучы, за некалькі гадоў іх прысутнасці на нашых рынках ужо надакучылі. Асеннія ж паліто з розных сучасных тканін таксама адносна даступныя, і калі ў вас знойдзецца долараў 70—80, то вы зможаце іх сабе набыць.

А вось калі хтосьці з жанчын марыць пазбавіцца ад нелюбімага драпавага зімовага паліто, цяжар якога абавязкова прыгінае да зямлі, лепш ім своечасова адмовіцца ад сваёй мары, каб пазбегнуць расчаравання: акрамя футра натуральнага яго пакуль замяніць няма чым. А вось тэма цэн на натуральнае футра радавога пакупніка наўрад ці зацікавіць. Дастаткова заўважыць, што самая «дэмакратычная» (у сэнсе даступнасці) футра з горнай казы ацэньваецца ў 230—240 «зялёных», а ў цэлым цэны на футра даходзяць да тысячы «баксаў»(!). Увогуле, як гаворыцца каму што па кішэні...

**Надзея НІКАЛАЕВА.**

# «ВАСЬМЁРКА», або Жыццё пад знакам бясконцасці

**Суседзі па вагону, немаладая ўжо пара стомленых жыццём людзей, гледзячы ў акно, ледзь не ў голас выгукнулі: «Забралі б нас сюды, і ніякіх праблем!» Зірнула і я, спадзеючыся ўбачыць санаторый ці мо які дом адпачынку. Але за вагонным акном праплывала агароджа адной з аршанскіх калоній.**

## МЕСЦА ЗНЯВОЛЕННЯ — МЕСЦА БЕЗ ПРАБЛЕМ?

Злачынным скрыжаваннем назвала, як у сук уляпіла, адна з журналістак Оршу. Размешчаны на перакрыжаванні аўтамабільных і чыгуначных шляхоў з Еўропы ў Расію і ад Чорнага мора — да Балтыйскага, горад прыцягвае да сябе і добрае і дрэннае. Аднак нядобрую славу яму здабыло існаванне тут да нядаўніх часоў аж чатырох калоній: дзвюх — проста для злачынцаў, і па адной — для зладзеяў-рэцыдывістаў і для «пачаткоўцаў» — чым, па сутнасці, з'яўляецца прыёмнік-размеркавальнік для дзяцей і падлеткаў. Пад знакам перабудовы і адраджэння, што павінны былі б звесці злачыннасць на нішто, ад аднаго з месцаў зняволення ўдалося пазбавіцца. Якраз ад таго, што ў самым цэнтры горада, побач са знакам у гонар заснавання старажытнай Оршы (а ёй у наступным годзе споўніцца 930 гадоў). Дрот знялі, і ў былых камерах размясцілі свае фірмы «новыя беларусы». Што дало падставы некаторым аршанцам прадракаць яшчэ адно «адраджэнне» калоніі: засталося толькі, маўляў, зноў дрот нацягнуць і нікога не выпускаць.

Ніякай таямніцы з жыцця папраўча-працоўнай калоніі УЖ 15/8, празванай зэкамі «васьмёркай», у Оршы не робяць. Утрымліваецца ва ўстанове амаль 4 тысячы чалавек — удвая больш, чым у адпаведнасці з умовамі. Дарэчы, так не толькі ў Оршы, а ва ўсіх гэтых сумных установах. Сумных без перабольшання. Магчыма, з-за суму нясцерпнага і адбываюцца ў сценах іх забойствы і самазабойствы. Праўда, у аршанскай «васьмёрцы» адміністрацыя можа пахваліцца іх адсутнасцю. Жыццё размеранае і, збоку гледзячы, спакойнае.

Напачатку мяне пазнаёмілі з меню, бо цвёрда засвоілі, што гэта найперш цікавіць журналістаў. На снеданне — суп-крупнік, запраўлены тлушчам, 400 грамаў хлеба, крыху масла і чай. На абед — першае і каша з мясам. На вячэру — каша з рыбай. Меню кантралююць не толькі журналісты, наведваюцца ў калонію і прадстаўнікі замежных місій, рэлігійных арганізацый, уладаў. Сапраўднай падзеяй стала пасылка з 600 экземплярамі беларускай праваслаўнай газеты «Царкоўнае слова». Яе спецыяльны выпуск на 16 старонках прызначаўся для зняволеных. Газеты і духоўную літаратуру на 3 мільёны рублёў перадаў настаяцель Свята-Троіцкай царквы з пасёлка Арэхаўск Аршанскага раёна іераманах Віталь. Пабываў тут нават прэм'ер-міністр Беларусі Міхаіл Чыгір.

Сёння, дарэчы, прыгаданаму мною меню могуць пазайздросціць і на волі. Зрэшты, як і бясплатнаму кіно, магчымасці глядзець тэлевізар. А вось ужо магчымасці нічога не рабіць не варта зайздросціць. Гультайства паняволі прыйшло ў калонію і нікога не радуе.

## ГУЛЬТАІ ПАНЯВОЛІ

Некалі буйнейшая ў рэспубліцы аршанская калонія — манапаліст у вытворчасці вырабаў з алюмінію — карміла сябе і прыносіла прыбытак дзяржаве. Яна ўстойліва трымалася ў першых радах зводкі гарстатыстыкі, 40 прэсаў цэха металічных вырабаў спраўна выдавалі «на гара» каструлі, патэльні, чайнікі, міскі, каністры — чатыры дзесяткі найменняў посуду. Дарагоўля сыравіны амаль што згарнула гэту вытворчасць. У швейным цэху жыццё яшчэ тлее: то атрымаюць заказ на пашыў навалачак, то хоць бы футбольных мячоў.

Некалі дакаралі папраўчую сістэму за спробу перавыхоўваць працай і вучобай. Між тым, атрыманне прафесіі дазваляла выйсці за сцены калоніі спецыялістам у нейкай справе: такарнай, сталярнай. А яшчэ вучылі прафесіі зваршчыка, электрыка, дрэваапрацоўшчыка, стропальшчыка і інш. Вучаць і цяпер, вось толькі замацаваць навыкі ў калоніі не заўсёды ўдаецца. Праца дазваляла зоне пракарміць сябе, цяпер жа запазычанасць УЖ дзяржаве за харчаванне складае мільярды рублёў. Заробак зняволеных быў асноўным сродкам пагашэння судовых іскаў пацярпеўшых. Такім чынам атрымліваецца, што, пазбаўляючы зону магчымасці зарабляць, дзяржава карае... ахвяру.

Міністэрства ўнутраных спраў заклапочана вышэй памянёнай праблемай, не раз у Мінску, ды і на месцы, у Оршы праводзіліся нарады з гэтай нагоды. Аднак заканчваліся яны нязначнымі заказамі, вышуканымі пасля «крутой» размовы. Нават пасля наведвання Міхаіла Чыгіра справа закончылася толькі частковымі мерамі: прапановай выдзеліць крэдыт, які не падмацаваны ўпэўненасцю, што будзе вернуты. Праўда, апошнім часам загаварылі аб неабходнасці перагляду дзеючага заканадаўства, што вызваліла б многія камеры. Гэта калі замест пакарання няволяй будзе прадугледжана пакаранне рублём за шэраг злачынстваў. Але не пра насельнікаў «васьмёркі» тое сказана, бо дзве трэці з іх — хранічныя алкаголікі, у большасці — рэцыдывісты, на рахунку якіх забойствы брата і жонкі, згвалтаванні дзяцей і нават маці. Прыгаворы для многіх балансавалі на мяжы прымянення вышэйшай меры. Нават іх знаходжанне ў адной камеры са «звычайнымі» раскрадальнікамі маёмасці проціпаказана для апошніх. Аднак дзе знайсці асобныя камеры для кожнага?

## ХТО ПЕРАВЯРНУЎ ВАСЬМЁРКУ?

Лічба «восем», калі размясціць яе гарызантальна, — знак бясконцасці. Ці не таму празвалі калонію «васьмёркай» яе насельнікі з «перавернутымі» лёсамі? Гэтым знакам быццам пазначаны ўсе яны, у аднолькавым чорным адзенні, доўгія гады і нават дзесяцігоддзі вымушаныя несці выпрабаванне няволяй. Яны ўжо быццам у іншым вымярэнні, і няма вяртання з той бясконцасці і безвыходнасці, на якую самі сябе асудзілі.

Але гэта толькі знешняе ўражанне. У кожнага і тут, як і на волі, свой лёс і свая зорка. І злачынствы, і тэрміны пакарання розныя. Ёсць такія, хто зарэзаў родную маці, і такія, хто ўкраў на сотні тысяч рублёў, што караецца ледзь не аднолькава. І кожны жыве на сваіх нарах сваім жыццём і сваімі перажываннямі. Нават адарванасць ад знешняга свету адносная. Нядаўна ахоўнікі выявілі за дротам і адабралі радыёстанцыю замежнай вытворчасці, роўнай якой па тэхнічных характарыстыках няма ў нашай міліцыі. Ёсць і дазволеныя сувязі са светам: наведванне роднымі, перапіска. Апошняе — любімы занятак многіх. Пішуць, у асноўным, дзяўчатам, апошнім часам — у газетныя рубрыкі знаёмстваў. Мне давялося пазнаёміцца са зместам некаторых пісьмаў, з якіх аўтары сакрэту не рабілі. А ў Аршанскім ЗАГСе расказвалі пра шлюбы, заключаныя за дротам. Нявесты, іншы раз прыгожыя дзяўчаты з самых розных месцаў Беларусі і СНД, прыязджалі нават з Сібіры. Знаёміліся часцей за ўсё па пошце, да шлюбу не бачыліся, і многія наўрад ці разлічваюць на доўгае шчаслівае жыццё, улічваючы тэрміны ўтрымання жаніхоў. Ці то пісьмы кранаюць нявест, ці проста хочацца пабыць замужам? І шлюбы ў калоніях не перапыняюцца.

Цяпер пра галоўнае. Такіх, каго калонія выпраўляе, мала. Хоць і ёсць датэрмінова вызваленыя, і тыя, каму за добрыя паводзіны мера пакарання змякчаецца накіраваннем на будоўлі народнай гаспадаркі. Намеснік старшыні Аршанскага гарвыканкома Аляксандр Калуга, якому па пасадзе даводзіцца займацца як справамі нагляду за калоніяй, так і лёсам вызваленых, сваёй роспачы не хаваў. Як правіла, сказаў Аляксандр Іванавіч, былыя каланісты працаваць не жадаюць, хоць горад робіць многае, каб знайсці занятак людзям, што выбралі і надалей яго сваім прытулкам. А так яно і здараецца. Назваўшы месцам выбыцця кропку на карце што падалей, каб атрымаць грошы на праезд, адбыўшыя пакаранне прапіваюць білеты, а потым прыходзяць у гарвыканком па разавую дапамогу. Пры гэтым яны вельмі натуральна раскайваюцца ў зробленым і абяцаюць або шчыра працаваць, атрымаўшы накіраванне, або з'ехаць як мага далей ад Оршы. Аднак уліваюцца ў рады бамжоў, дабаўляючы клопату мясцовым уладам і мацуючы нядобрую ў крымінагенных адносінах славу Оршы.

Сёння 56 тысяч грамадзян Беларусі адчуваюць на сабе знак бясконцасці, адбываюць розныя тэрміны зняволення ў 22 калоніях асобага, строгага або звычайнага рэжыму. У 5-6 заходаў абслугоўваюць іх сталоўкі, спраўна забяспечваючы харчаваннем, двух'ярусных нараў хутка не хопіць, каб даць усім начлег. Міністр унутраных спраў Беларусі Валянцін Агалец у час свайго візіту на Віцебшчыну заявіў аб неабходнасці амністыі, якая б знізіла колькасць зняволеных на 15 тысяч чалавек. Што ж, ва ўсякім разе, гэта зменшыць расходы на ўтрыманне за калючым дротам гультаёў паняволі. Сёння ўтрыманне аднаго «зэка» абыходзіцца прыкладна ў 600 тысяч рублёў у месяц. Іншыя на волі столькі не зарабляюць на сям'ю.

Амнісціраваных жа чакае выпрабаванне воляй і яе праблемамі.

**Вольга ШУМІЛІНА.**

---

*ПЫТАЛЬНІК*

## БЕНЗІН ІНВАЛІДАМ ПА ЛЬГОТНАЙ ЦАНЕ ПРАДАЕЦЦА, КАЛІ ЁН ЁСЦЬ

***«Звязда» пісала, што інваліды Вялікай Айчыннай вайны ў Мінску набываюць бензін па льготнай цане. А ў нас, у Нароўлі, ніякіх скідак для інвалідаў няма. Чаму? Мы ж не ў іншай дзяржаве жывём.***

**ІГНАЦЕНКА Іван Харытонавіч, МАРХІН Уладзімір Рыгоравіч і іншыя інваліды Вялікай Айчыннай вайны.**

Сапраўды, мы ў адной дзяржаве жывём. Сапраўды, інваліды вайны ў Мінску купляюць бензін не па 4 тысячы 600 рублёў, а па 2 тысячы 900 рублёў. Але, як вынікае з інфармацыі, на якую вы спасылаецеся ў пісьме, ільготная цана на паліва ўстанаўліваецца ў кожным горадзе і раёне ў залежнасці ад наяўнасці яго аб'ёмаў. У сталіцы кошт бензіну зніжаны, дзякуючы намаганням аб'яднання «Мінскаўтазапраўка». Як заўважыла дырэктар па камерцыйных пытаннях канцэрна «Белнафтпрадукт» Ірына Чыстаполава, гэта акцыя будзе працягвацца да той пары, пакуль прадпрыемства працуе з прыбыткам. Не будзе прыбытку — не будзе і таннага бензіну. У астатніх гарадах рэспублікі спіс грамадзян, якія маюць права на льготы пры набыцці паліва, складаецца мясцовымі ўладамі. Якія катэгорыі грамадзян могуць купляць танны бензін, вырашаюць яны. А рашэнне прымаецца, як патлумачыў начальнік упраўлення эканомікі і фінансаў канцэрна «Белнафтапрадукт» Анатоль Філонаў, у залежнасці ад наяўнасці аб'ёмаў паліва. Танны бензін у раённыя гарады пастаўляецца ў абмежаванай колькасці, а забяспечваюцца ім найперш бюджэтныя арганізацыі. Можам толькі параіць звярнуцца ў гарвыканком, дзе вам і адкажуць, якія катэгорыі грамадзян карыстаюцца такой ільготай.

## НАДБАЎКА ДА ПЕНСІІ З НАГОДЫ СТРАТЫ КАРМІЦЕЛЯ СЕМ'ЯМ ВАЕННАСЛУЖАЧЫХ ПАКУЛЬ НЕ ДАЕЦЦА

***Ваша газета паведамляла, што 80-гадовыя пенсіянеры маюць права на надбаўку з нагоды страты карміцеля ў памеры 50 працэнтаў мінімальнай пенсіі па ўзросту. Я атрымліваю пенсію за памёршага афіцэра, інваліда вайны І групы. Калі звярнулася ў ваенкамат, мне адказалі, што гэтае права на мяне не распаўсюджваецца. Адкажыце, калі ласка, чаму закон не дзейнічае ў гэтым выпадку? Мне ўжо 81 год, пенсія мая — 450 тысяч рублёў.***

**ЛОСЬ-ПАЎЛАВА Вера Фёдараўна, працоўны стаж 34 гады, г. Мінск.**

На ваша пытанне, паважаная Вера Фёдараўна, адказвае намеснік **начальніка ўпраўлення пенсій і дапамог Міністэрства сацыяльнай абароны Людміла МАРЧАНКА.**

— Пенсіі з нагоды страты карміцеля сем'ям ваеннаслужачых прызначаюцца на падставе Закона «Аб пенсіённым забеспячэнні ваеннаслужачых, асоб начальніцкага і радавога саставу органаў унутраных спраў». Вышэйназваным законам не прадугледжаны надбаўкі на догляд да пенсіі з нагоды страты карміцеля. Гэтая надбаўка ўведзена з 1 красавіка 1995 года да пенсіі з нагоды страты карціцеля на падставе Закона «Аб пенсіённым забеспячэнні», які рэгулюе ўмовы і нормы пенсіённага забеспячэння працоўных, служачых і членаў іх сем'яў. У парадку інфармацыі паведамляем, што на разгляд Кабінета Міністраў прадстаўлены праект закона «Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Закон «Аб пенсіённым забеспячэнні ваеннаслужачых», у якім прапануецца ўстанавіць надбаўку на догляд да пенсіі з нагоды страты карміцеля-ваеннаслужачага пенсіянерам, дасягнуўшым 80-гадовага ўзросту, у памеры 50 працэнтаў мінімальнай пенсіі па ўзросту.

## ЧЫМ ХАРЧУЕМСЯ?

***Кажуць, што мы сталі больш спажываць прадуктаў харчавання ў параўнанні з мінулымі гадамі. Ці так гэта? І яшчэ хацелася б ведаць, якія прадукты карыстаюцца найбольшым попытам.***

**Вольга ОСІПАВА, г. Гродна.**

Калі абапірацца на аналіз спецыялістаў Міністэрства гандлю за першую палову сёлетняга года, то, сапраўды, мы сталі больш спажываць прадуктаў харчавання: удзельная вага рэалізацыі харчовых тавараў узрасла ў параўнанні з адпаведным перыядам мінулага года і склала 68,1 працэнта ў агульным аб'ёме рознічнага тавараабароту. Астатнія 31,9 працэнта прыпадаюць ужо на адзенне, мэблю і іншыя тавары.

Што ж датычыцца другой часткі вашага пытання, то найбольшым попытам у беларусаў карыстаюцца каўбасныя вырабы, рыба і марскія прадукты, кандытарскія вырабы, агародніна і садавіна.

---

*ПЫТАЛЬНІК*

## ІЛЬГОТЫ НА АПЛАТУ ЖЫЛЛЯ ВЕТЭРАНАМ АДНОЎЛЕНЫ

***Законам Рэспублікі Беларусь «Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у некаторыя заканадаўчыя акты Рэспублікі Беларусь», які быў прыняты 3 мая 1996 года, Вярхоўны Савет РБ унёс у Закон «Аб ветэранах» змяненні і дапаўненні толькі ў артыкул 16 «Праезд у грамадскім пасажырскім транспарце». У артыкул 11 «Аплата жылой плошчы і камунальных паслуг» ніякіх змяненняў і дапаўненняў не ўносілася. Гэта значыць, па-ранейшаму прадастаўляецца 50-працэнтная скідка па аплаце жылой плошчы і камунальных паслуг непрацуючым ветэранам працы і іншым асобам. Мясцовыя ўлады гэтае патрабаванне закона ігнаруюць.***

**М. ПРАЧ, в. Нівы, Жлобінскі раён.**

Прыняты Вярхоўным Саветам Закон «Аб прыватызацыі жыллёвага фонду ў РБ» пазбавіў ветэранаў вайны і працы, інвалідаў, якія прыватызавалі кватэру, ільготы — 50-працэнтнай скідкі па аплаце за жыллёвую плошчу. У выніку ветэраны, што жывуць у дзяржаўнай кватэры, такой ільготай карыстаюцца, а ўладальнікі прыватызаванай — не.

У маі гэтага года Вярхоўны Савет унёс змяненні ў Закон РБ «Аб ветэранах» і «Аб сацыяльнай абароне інвалідаў у Рэспубліцы Беларусь». У адпаведнасці з гэтымі дакументамі скідка прадастаўляецца і па аплаце прыватызаваных кватэр. Гэтыя законы ўступілі ў сілу з моманту публікацыі — з 5 жніўня бягучага года. Міністэрствам жыллёва-камунальнай гаспадаркі РБ падрыхтавана для прадпрыемстваў і арганізацый пісьмо аб прадастаўленні з 5 жніўня бягучага года скідкі ветэранам вайны і працы, іншым катэгорыям ільготнікаў. Сітуацыя ў хуткім часе павінна выправіцца.

## ТАК ВЫРАШЫЎ АГУЛЬНЫ СХОД КАЛГАСНІКАЎ

***Мы жывём у сельскай мясцовасці і звычайна карыстаемся рознымі паслугамі свайго калгаса. Незразумела тады, чаму з нас за іх бяруць удвая больш, чым з калгаснікаў?***

**А. ВЯРЭНІЧ, в. Стахава, Столінскі раён.**

Як адказаў **першы намеснік старшыні Столінскага раённага выканаўчага камітэта В. ПАШКЕВІЧ**, справа вось у чым, паважаная Агаф'я Мікалаеўна:

— Гэта пытанне разгледжана з выездам у калгас «Іскра». Устаноўлена, што вы і Вярэніч Ігнат Фаміч жывяце на тэрыторыі калгаса, але членамі яго не з'яўляецеся. А рашэннем праўлення ад 22.08.96 г. (пратакол № 12) устаноўлены расцэнкі на паслугі, што аказваюцца насельніцтву. Напрыклад, на абмалот збожжа на прысядзібных участках яны такія: за адну гадзіну работы камбайна для работнікаў гаспадаркі — 200 тысяч рублёў, для астатніх катэгорый работнікаў — згодна з дзеючымі ў калгасе каэфіцыентамі. Рашэннем праўлення калгаса ўстаноўлены каэфіцыент — 2. Таму і ўтрымана з вас за абмалот збожжа камбайнам на прысядзібным участку 400 тысяч рублёў.

Больш таго, рашэннем праўлення калгаса ад 19.10.95 г. (пратакол № 9) за выпас асабістых коней бярэцца плата: за аднаго дарослага каня — 200 тысяч рублёў, за маладняк — 100 тысяч у год.

Агульны сход калгаснікаў сёлета сваім рашэннем зацвердзіў план работы з уладальнікамі асабістых падсобных гаспадарак і паставіў выдзяляць дадаткова да наяўнага прысядзібнага ўчастка 0,19 га зямлі за апрацоўку кармавых буракоў.

У той жа час у калгасе, згодна з існуючым Палажэннем аб парадку прадастаўлення паслуг і льгот інвалідам вайны і працы І і ІІ груп, удовам загінуўшых воінаў, удзельнікам вайны, персанальным пенсіянерам, воінам-«афганцам», аказваюцца са скідкай 50 працэнтаў паслугі аўтамабільныя, трактарныя, жывой цяглавай сілы на работах, звязаных з абслугоўваннем асабістай падсобнай гаспадаркі, а транспартныя паслугі ўсіх відаў на работах па нарыхтоўцы і вывазцы сена з калгасных сенажацяў прадастаўляюцца за сродкі калгаса.

## ПРАЕЗД НЕ БЯСПЛАТНЫ, А З 50-ПРАЦЭНТНАЙ СКІДКАЙ

***Мы жывём за 70 кіламетраў ад свайго райцэнтра. Аўтобус Вілейка — Бубны, які ходзіць праз нашу вёску, лічыцца міжгароднім. Растлумачце нам, калі ласка, чаму мы плацім поўнасцю за праезд? Чым мы горшыя за іншых пенсіянераў?***

**Пенсіянеры в. Заброддзе Даўгінаўскага сельсавета Вілейскага раёна.**

Вось што адказаў рэдакцыі **намеснік старшыні Вілейскага райвыканкома А. АБРАМАЎ:**

— Наконт аплаты за праезд на міжгароднім аўтобусе Вілейка—Бубны паведамляем, што пытанне разгледжана з удзелам кіраўніцтва аўтобуснага парка № 5 г. Вілейкі. Гэты маршрут лічыцца міжгароднім: працягласць яго складае звыш 50 кіламетраў.

У адпаведнасці з Указам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 30.04.96 г. № 155 пенсіянерам прадастаўлена права бясплатнага праезду ў маі і верасні толькі на прыгарадных маршрутах. Указам Прэзідэнта ад 22.08.96 г. № 313 такая льгота была прадоўжана і на кастрычнік. А вось на міжгародніх рэйсах яна не прадугледжана.

Затое ў жніўні ў арт. 17 Закона Рэспублікі Беларусь «Аб ветэранах» унесены змяненні, згодна з якімі пенсіянерам, што жывуць у сельскай мясцовасці, прадастаўляецца 50-працэнтная скідка з кошту праезду на аўтобусах міжгародніх маршрутаў у межах адміністрацыйнага раёна па месцы жыхарства.

# ЗАБІЦЬ РЭКЕЦІРА: ЗЛАЧЫНСТВА ЦІ ГЕРОЙСТВА?

## Мафія спрабавала прымусіць фермера Мухтарава плаціць аброк. Ён даў рэкецірам сапраўдны бой і ... трапіў за краты.

**Рэкет даўно дабраўся і да беларускай вёскі. Дакладней, да фермераў. Яны, як і іншыя прадстаўнікі прыватнага капіталу, застаўшыся сам-насам з гэтай злачыннай навалай, нярэдка вымушаны адлічваць потам і крывёю заробленыя грошы ў зладзейскі «абшчак». Інакш страціш усё, у тым ліку і жыццё, сваё, сваіх родных і блізкіх. Даводзіцца цярпець.**

**Але рана ці позна і, здавалася б, бясконцаму цярпенню сельскага жыхара надыходзіць канец. У чалавека, загнанага сквапнымі бандытамі ў кут, тады не застаецца іншага выбару, як са зброяй у руках бараніць сябе, сваю сем'ю, сваю маёмасць і помсціць сваім крыўдзіцелям за знявагу і здзек. Ярасць не ведае межаў.**

**Так працавіты, законапаслухмяны чалавек пераходзіць рысу Закона і міжволі становіцца злачынцам.**

**Забіць рэкеціра і самому апынуцца на ягоным месцы — за кратамі. Менавіта такая доля напаткала дагестанца Арслана Мухтарава, які прыехаў з сям'ёй у вёску Кірава Жлобінскага раёна і вырашыў стаць беларускім фермерам.**

**Але аб усім па парадку.**

### ПЛАЦІ ЗА ТОЕ, ШТО «НЯРУСКІ»

Гэта няпраўда, што беларускія злачынцы самыя большыя інтэрнацыяналісты на абшарах былога СССР.

У прыватнасці, арганізаваная злачынная групоўка, якая дзейнічала ў Жлобінскім раёне, чамусьці з вялікай непрыязнасцю ставілася да так званых «асоб каўказскай нацыянальнасці». Таму, калі ў вёску Кірава Жлобінскага раёна пераехаў на пастаяннае месца жыхарства дагестанец Арслан Мухтараў з сям'ёй, мясцовым мафіёзі гэта не спадабалася. Не паспеў Мухтараў як след абжыцца на новым месцы, як да яго ўжо наведаліся няпрошаныя госці. Адзін з «аўтарытэтаў» Жлобінскай «братвы» па мянушцы Малах адразу ж растлумачыў яму мэту візіту. Маўляў, чалавек ты, Мухтараў, «нярускі», кормішся з нашай зямелькі, вось і плаці нам аброк. Прычым вымагальнікі запатрабавалі, каб фермер штомесяц выплачваў даніну ў памеры 25 працэнтаў ад атрыманага прыбытку. У адваротным выпадку рэкеціры прыгразілі, што напачатку знішчаць яго сям'ю, а потым і самога фермера. Падобныя пагрозы Мухтараў пасля чуў ад бандытаў неаднаразова, але чалавек ён быў не баязлівы, горды, таму плаціць аброк адмовіўся.

Не так ужо лёгка даставаўся яму кавалак фермерскага хлеба, каб чвэрць заробленага аддаваць у зладзейскі «абшчак».

Крымінальнікаў, якія, відавочна, прызвычаіліся да таго, што іх у раёне ўсе баяцца і пакорліва плацяць даніну, смеласць дагестанца раззлавала. У кастрычніку 1992 года яны на першы раз вырашылі правучыць незгаворлівага фермера. Падпільнавалі яго неяк у Рагачове і моцна збілі.

Пасля гэтай «прафілактыкі» рэкеціры зноў пачалі патрабаваць у Мухтарава грошы. Аднак фермер зноў адмовіўся плаціць. У адказ вымагальнікі пачалі псіхалагічную атаку на непакорлівага дагестанца і яго сям'ю. Пагрозы, кпіны, здзекі гучалі з вуснаў рэкецірау ледзь не штодня. Гэтая «халодная вайна» цягнулася амаль тры гады. Аднак бандытам так і не ўдалося запалохаць фермера і прымусіць яго працаваць на «абшчак».

І тады рэкеціры вырашылі расквітацца са стойкім кіраўскім фермерам.

### ПАЛЯВАННЕ НА НЕПАКОРЛІВАГА ДАГЕСТАНЦА

5 чэрвеня мінулага года двое ўдзельнікаў злачыннай групоўкі Малаха ў Жлобіне напалі на Мухтарава. Праўда, з фермерам былі двое яго землякоў-дагестанцаў. Так што рэкецірам прыйшлося потым самім уцякаць.

Мухтараў з сябрамі пасля гэтага інцыдэнту паехаў дамоў у Кірава. Рэкеціры ж тым часам сабралі падмацаванне, і злачынная група колькасцю прыкладна 20 чалавек на аўтамашынах накіравалася на «разборкі» з Мухтаравым.

Сярод белага дня гэтая банда ўварвалася ў вёску і рушыла на штурм фермерскай сядзібы. Адзін з рэкецірау адкрыў агонь з пісталета «ТТ», астатнія, узброеныя кавалкамі металічных труб, ланцугамі, ішлі следам. Яны не сумняваліся ў сваёй перамозе. Ішлі паволі, нібы расцягваючы слодыч расплаты. У тым, што ім ніхто не перашкодзіць паквітацца з Мухтаравым і яго сябрамі, бандыты не сумняваліся. Да райцэнтра далёка, а жыхары Кірава, перапалоханыя стралянінай, наўрад ці заступяцца за аднавяскоўца. Ды і каму зараз у беларускай вёсцы ваяваць супраць бандытаў? Пераважная большасць жыхароў — старыя. Словам, бандыты яўна адчувалі сябе гаспадарамі становішча...

Вось ужо і першая кроў. Выстраламі з пісталета быў паранены ў шчаку Мухтараў, затым куля трапіла ў нагу яго сябра. Стала зразумела, што рэкеціры наўрад ці пакінуць іх жывымі. І фермер вырашыў скарыстаць апошні шанц на выратаванне. Ён кінуўся ў хлеў, дастаў з патаемнага месца аўтамат АК-74 і даў сапраўдны бой бандытам. Рэкеціры кінуліся наўцёкі. Аднаго з нападаўшых, які страляў з пісталета, Мухтараў смяротна параніў. Астатніх і след амаль прастыў. Тут бы і спыніцца фермеру і пачакаць прыезду міліцыі. Але ім ужо авалодала сляпая лютасць. Цяпер ён прагнуў толькі аднаго — помсты. За пагрозы, за здзек, за пабоі, за страх, у якім некалькі гадоў жылі жонка і дзеці. Мухтараў пачаў шукаць таго, хто больш за іншых атруціў яму жыццё. Малах. Той, адчуваючы смяротную небяспеку, шпарка бег далей ад раз'юшанага фермера. Але куля ўсё ж дагнала Малаха. Ён памёр тут жа, на вясковай вуліцы.

### ЗАКОН ЁСЦЬ ЗАКОН

Яго Вялікасць Закон, на жаль, не заўсёды ідзе поруч са Справядлівасцю. Гэта толькі на паперы, у розных кодэксах і законах, права і мараль не супярэчаць адно аднаму. У жыцці ўсё куды больш складана і заблытана.

Пасля гэтага бою ў вёсцы Кірава праз пэўны час за кратамі апынуліся не толькі некаторыя з нападаўшых рэкецірау (праваахоўным органам удалося затрымаць толькі 12 бандытаў, астатнія пакуль у вышуку), але і сам герой гэтай «лакальнай вайны» Арслан Мухтараў. Яму прад'яўлена абвінавачанне ў незаконным захоўванні зброі і боепрыпасаў (апроч аўтамата Мухтараў незаконна захоўваў яшчэ і пісталет), а таксама ў наўмысным забойстве Малаха. Крымінальнае праследаванне Мухтарава па факту забойства другога бандыта, які страляў з пісталета, было спынена, паколькі следства палічыла, што фермер не перавысіў мераў неабходнай самаабароны.

А вось за забойства рэкеціра Малаха, ад якога Мухтараў нацярпеўся нямала бяды, прыйдзецца несці адказнасць. Хоць чыста па-чалавечы фермера можна апраўдаць. Аб гэтым, дарэчы, следчага па асабліва важных справах Пракуратуры Беларусі Алега Дамурадава прасілі ледзь не ўсе жыхары Кірава. Вяскоўцы лічаць, што мафія атрымала па заслугах і Мухтараў не павінен несці адказнасць за тое, што застрэліў рэкеціра. Але ж закон ёсць закон. Парушаць яго нельга.

Да таго ж, пры ўсёй сімпатыі да смелага і гордага фермера, варта адзначыць, што і ён не бязгрэшны і пасля той злашчаснай перастрэлкі нарабіў нямала памылак. Напрыклад, замест таго, каб адразу ж здацца праваахоўным органам і добраахвотна аддаць зброю, ён кінуўся наўцёкі і толькі праз нейкі час яго затрымала міліцыя. Праўда, і ў гэтым яго, зноў жа па-чалавечы, зразумець можна. Пасля такой сутычкі мясцовая мафія наўрад ці даравала б яму і, пэўна, паспрабавала б адпомсціць. Таму ў Мухтарава, відавочна, спрацаваў інстынкт самазахавання, і ён кінуўся наўцёкі.

Зрэшты, разважаць зараз аб памылках, якія чалавек нарабіў у той экстрэмальнай сітуацыі, — справа марная. Да таго ж хутка павінен адбыцца суд, які расставіць усе кропкі над «і» ў справе Мухтарава.

Затое існуе іншы бок гэтай гісторыі, які не будзе прадметам абмеркавання ў судзе.

### КУДЫ ГЛЯДЗЕЛА МІЛІЦЫЯ?

Перастрэлка, якая адбылася ў Кіраве, была хутчэй заканамернай, чым выпадковай з'явай. Сутыкненне фермера з мясцовай мафіяй было непазбежным. Як ужо адзначалася, гэты канфлікт працягваўся некалькі гадоў. Малаверогодна, каб мясцовая міліцыя нічога не ведала аб гэтым процістаянні.

Праўда, дзеля справядлівасці трэба адзначыць, што Мухтараў афіцыйна не паведамляў у міліцыю аб тым, што з яго вымагаюць грошы. Сваё нежаданне звярнуцца па дапамогу ў праваахоўныя органы фермер тлумачыць бояззю за жыццё жонкі і дзяцей, паколькі рэкеціры параілі не ўмешваць у справу міліцыю. Не паверыць у праўдзівасць гэтых слоў Мухтарава цяжка. Хто б з нас рызыкнуў жыццём сваіх блізкіх у такой сітуацыі?

Тым не менш, міліцыі не так ужо складана было даведацца аб канфлікце паміж Мухтаравым і мафіяй самастойна.

Напрыклад, пасля першай сутычкі з рэкецірамі Мухтараў атрымаў сур'ёзныя пашкоджанні і знаходзіўся на лячэнні ў бальніцы. Па існуючых правілах урачы павінны паведамляць у міліцыю аб падобных фактах, нават калі пацыент не хоча рабіць гэта сам. Па некаторых звестках, урачы, сапраўды, паведамілі аб пацыенце Мухтараву ў міліцыю. Але чамусьці ў міліцыі на гэты сігнал не адрэагавалі.

І апошняе. Крывавы бой у вёсцы Кірава быў своеасаблівай рэпетыцыяй жлобінскай мафіі. Літаральна за некалькі дзён да гэтых падзей у Жлобіне сярод белага дня адбыліся мафіёзныя «разборкі». Мясцовыя крымінальнікі жорстка збілі двух прадстаўнікоў чачэнскай групоўкі і «папрасілі» іх пакінуць горад. «Разборка» адбывалася на вачах у некаторых жыхароў і таксама не абышлася без страляніны. Калі б тады супрацоўнікі міліцыі своечасова астудзілі ваяўнічы пыл мясцовых «гангстэраў», перастрэлкі ў Кіраве хутчэй за ўсё, не было б, і фермер Арслан Мухтараў мірна і спакойна працаваў бы на беларускай зямлі.

**Мікола ДЗЯБЁЛА.**

---

*КРЫК ДУШЫ*

## КАЛІ НЕ ДАПАМОГУЦЬ, АДЗІН БОГ ВЕДАЕ, ЦІ ПЕРАЗІМУЮ Я...

Вось зноў пішу вам, паважаная рэдакцыя, другі раз. Чаму? Прасіла вас пераслаць маё першае пісьмо Прэзідэнту. Вы думаеце, я не звярталася да нашых мясцовых «чыноў»? Ды за тры гады праліла мора слёз, аднак ніхто не звяртае на мае просьбы ўвагі. У іх жа не пакрываецца цвіллю посуд, не псуюцца крупы, мука. Вось пастаяла сырое надвор'е, і пайшла гуляць цвіль па кухні. Праўда, прыязджалі намеснік старшыні райвыканкома У. Зайцаў, старшыня прафкома КБМ (камбіната будаўнічых матэрыялаў) І. Патрушава і сказалі, што ў іх няма свабодных пакояў, хоць нядаўна адзін выслабаніўся, але яго ўжо засялілі. І тав. Зайцаў сказаў, што мяне наогул могуць выселіць, таму што гэта ведамасны інтэрнат. Хоць такіх, як я, у гэтым інтэрнаце пражывае нямала.

Што мне рабіць, як быць, не ведаю. Сын пачаў хварэць, а я плачу, гледзячы на яго, ад жорсткай і несправядлівай крыўды. Дзвярныя каробкі пагнілі, акно зачыняю сякерай, немагчыма паклеіць, пафарбаваць, нічога не трымаецца. Я перажываю не за сябе, а за здароўе свайго сына. Застаецца ўзяць ложак, паставіць на плошчы і начаваць там разам з сынам. А які яшчэ выхад? Спытала ў Зайцава, ці можна ўзяць пазыку для куплі кватэры. Аказваецца, трэба адразу ўнесці 40 мільёнаў рублёў, тады 40 дадуць пазыкі. Дзе мне іх узяць гэтыя 40 мільёнаў, калі, каб купіць сыну куртку, трэба аддаць усю зарплату.

Калі ніхто не дапаможа, адзін Бог будзе мне, відаць, суддзёй. Не ведаю, ці вытрымаюць мае нервы перажыць гэту зіму ў такіх умовах.

**Валянціна ДАВІДОЎСКАЯ.**

*г. Любань.*

### АД АДДЗЕЛА ПІСЬМАЎ

*І першы, і другі ліст Валянціна Уладзіміраўна прасіла пераслаць Прэзідэнту ці ў яго Адміністрацыю. Рэдакцыя палічыла, што гэта пытанне можна і трэба вырашыць усё ж на месцы.*

*І на першае пісьмо нашай чытачкі мы атрымалі адказ старшыні Любанскага раённага выканаўчага камітэта В. Сойкі. Валерый Антонавіч, у прыватнасці, паведаміў:*

*— Заява грамадзянкі Валянціны Уладзіміраўны Давідоўскай наконт рамонту пакоя ў інтэрнаце разгледжана з выездам на месца. Сапраўды, у кухні, туалеце, ваннай вельмі сыра, на кухні няма батарэі.*

*Кіраўніцтву камбіната будматэрыялаў даручана правесці бягучы рамонт у гэтым пакоі да пачатку ацяпляльнага сезона.*

*Думаецца, што так і будзе зроблена, гэта даручэнне кіраўніцтва КБМ выканае. Але разам з тым варта кінуць сур'ёзны папрок і ў адрас аўтапарка № 10, ад якога В. Давідоўская працуе касіркай на аўтастанцыі г. Любань. Незразумела, як можна кінуць свайго работніка, маці-адзіночку, прытым з хворым сынам, на волю лёсу. А менавіта так і атрымліваецца. Як пісала гэта гаротная жанчына, кіраўнікі аўтапарка ёй гавораць: «Рамонт рабі сама». А як я зраблю яго, калі адно акно памяняць — страшэнных грошай каштуе. У мяне ж зарплата (аклад) усяго 357 тысяч. Я і так пайшла б з торбай па свеце, калі б не сякая-такая дапамога маці-пенсіянеркі».*

---

*У СВЕЦЕ*

*ПЕЛЕНГ-НАВІНЫ*

### ТАЛІБЫ ПАЙШЛІ НА МІРАВУЮ?

Афганскія ўрадавыя войскі пад камандаваннем Шах Масуда выйшлі з даліны Пандшэр і вядуць жорсткія баі з атрадамі талібаў паблізу буйной авіябазы ў Баграме, што за пяцьдзесят кіламетраў на поўнач ад Кабула. Заходнія інфармацыйныя агенцтвы паведамляюць, што войскі Шах Масуда абстрэльваюць з артылерыі Баграм. Тры вядучыя ваенныя начальнікі краіны, сярод якіх і генерал Дустум, заключылі абарончы саюз супраць талібаў, пасля чаго кіраўніцтва «Талібана» зноў прапанавала ім уступіць у мірныя перамовы.

### У ЕРЭВАНЕ АДМЕНЕНА ЗАБАРОНА НА МІТЫНГІ І ДЭМАНСТРАЦЫІ

Прэзідэнт Арменіі Тэр-Петрасян адмяніў забарону на мітынгі і дэманстрацыі ў Ерэване. Ва ўказе прэзідэнта гаворыцца, што забарона знята ў сувязі з нармалізацыяй абстаноўкі ў Ерэване і набліжэннем назначаных на 10 лістапада выбараў у мясцовыя органы ўлады. Генеральная пракуратура падкрэсліла, што для правядзення дэманстрацыі неабходны пісьмовы дазвол уладаў. Дэманстрацыі і мітынгі былі забаронены ў сталіцы Арменіі пасля беспарадкаў, якія ўчыніла апазіцыя.

### НА РАХУНКУ ІРА ЯШЧЭ АДНА АХВЯРА

Брытанскі вайсковец, які днямі атрымаў цяжкія раненні падчас выбуху бомбы ў Белфасце, памёр учора раніцай у шпіталі. У панядзелак баевікі Ірландскай рэспубліканскай арміі (ІРА) праніклі на тэрыторыю брытанскай вайсковай базы і ўзарвалі там дзве машыны, нашпігаваныя ўзрыўчаткай. Падчас выбуху больш як 30 чалавек атрымалі раненні.

### НАМЕСНІК МІНІСТРА ЮСТЫЦЫІ ЗАБІТЫ ВА ЎЛАСНЫМ КАБІНЕЦЕ

Цела намесніка міністра юстыцыі Якуціі Анатоля Субоціна знойдзена ўчора раніцай у яго працоўным кабінеце ў Доме ўрада рэспублікі. Субоцін займаўся ў Міністэрстве юстыцыі пытаннямі матэрыяльна-тэхнічнага забеспячэння. У МУС Якуціі паведамілі, што следства па факту гібелі замміністра толькі пачалося, і адмовіліся назваць верагодныя прычыны смерці.

### ЛЁС СУДДЗЯЎ ВЫРАШЫЎ СЕЙМ

Відэа- і гуказапісаў, прадастаўленых Генеральнай пракуратурай членам Сейма, хапіла для таго, каб вырашыць лёс двух каўнаскіх суддзяў. Усе парламентарыі, якія прысутнічалі на пасяджэнні, прагаласавалі за дачу дазволу на змяшчэнне пад варту слуг Феміды, якія праштрафіліся. Літоўскія законы да такой ступені надзейна абараняюць суддзяў, што толькі члены Сейма ці прэзідэнт могуць дазволіць пракуратуры прыцягнуць іх да крымінальнай адказнасці. Каўнаскія суддзі абвінавачваюцца ў атрыманні буйнога хабару, у выніку чаго і ўзбуджана крымінальная справа.

### ЯПОНЦЫ ВЫЯВІЛІ КРЫНІЦУ ЗАРАЖЭННЯ СМЕРТАНОСНАЙ БАЦЫЛАЙ

Японскім медыкам удалося выявіць крыніцу заражэння смертаноснай бацылай 0-157, якая паразіла каля 10 тысяч і забрала жыцці 11 чалавек. Згодна з апублікаванымі данымі медыцынскага універсітэта Іватэм, масавае заражэнне бацылай адбылося праз прадукты харчавання, якія выкарыстоўваліся для прыгатавання школьных сняданкаў.

**Паводле паведамленняў радыё «Свабода», «Голас Амерыкі», «Радыё Расіі» і «Радыё-РОКС».**

*ІНФАРМ-КАКТЭЙЛЬ*

Кучу залатога і сярэбранага посуду, які належаў былой саксонскай каралеўскай сям'і, знайшоў аматар — шукальнік скарбаў непадалёк ад германскага горада Дрэздэна. Скарбы закапалі ў паляўнічым прадмесці ў канцы другой сусветнай вайны, але дакладнае месцазнаходжанне скарбу было забыта. Аднак шукальнік, які знайшоў каштоўныя прадметы, не атрымае ніякай узнагароды, паколькі не меў дазволу на прачэсванне мясцовасці. Больш таго, яму яшчэ пагражае штраф за парушэнне законаў і за тое, што ён прывёз знаходку да сябе дадому замест таго, каб адразу ж даставіць яе ўладам.

**Асашыэйтэд Прэс**

Група вядучых германскіх пісьменнікаў пад кіраўніцтвам вядомага раманіста Гюнтэра Граса выступіла ў Франкфурце з заявай, у якой заклікае пакінуць у спакоі нямецкую мову і адмовіцца ад планаў яе рэфарміравання. Ідэя такой рэформы, нарадзілася ў ліпені ў Вене, у ходзе сустрэчы экспертаў Германіі, Аўстрыі, Швейцарыі і нямецкамоўных абшчын шэрага іншых краін з мэтай стандартызацыі мовы і аблягчэння навучання іншаземцаў нямецкай мове. На думку пісьменнікаў, такая рэформа выкліча вялікую блытаніну і абыдзецца ў вельмі вялікія грошы, якіх і так не хапае.

**Рэйтэр**

«Мёртвым морам» цяпер называюць возера Жукава паблізу Кірава-Чапецка. Залпавы выкід завода па вытворчасці мінеральных угнаенняў знішчыў практычна ўсю рыбу. Загінула каля 10 тысяч дарослых асобін, у тым ліку пяць тысяч ляшчоў, больш як дзве тысячы верхаводак, 1670 плотак, 550 акунёў. Урон склаў 100 мільёнаў рублёў.

**ЕАН.**

---

## «ЗАЙЦАМ» БЫЦЬ НЯСОЛАДКА. А КАНТРАЛЁРАМ?..

**Што можа быць агульнага паміж сталічным транспартам і іспанскай карыдай? Усё вельмі проста: з'яўленне ў перапоўненым аўтобусе ці тралейбусе кантралёра ўздзейнічае на пасажыраў як чырвонае палотнішча на быка. А стварэнне дзвюх спецыяльных груп, у састаў якіх уваходзяць як работнікі грамадскага кантролю, так і супрацоўнікі міліцыі, якія падтрымліваюць парадак і адказваюць за бяспеку апошніх, выклікала спачуванне да безбілетнікаў нават з боку самых сумленных пасажыраў. Але пакуль грамадская думка хвалюецца з нагоды прыняцця транспартнікамі такіх крайніх мераў, новаўвядзенне прыносіць свае вынікі.**

Так, у верасні ў рукі падобных грамадскіх брыгад трапілі 4137 безбілетных мінчан і гасцей нашага горада, большасць з якіх у прысутнасці міліцыі палічыла за лепшае расплаціцца прама на месцы, і толькі на 635 чалавек былі складзены пратаколы аб уплаце штрафу. Прычым пятнаццаці дзён хапіла літаральна ўсім з іх, каб не даводзіць справу да суда.

Усяго ж работнікамі грамадскага кантролю сталіцы за верасень было аштрафавана каля 35 тысяч безбілетных пасажыраў на агульную суму ў 350 млн. рублёў.

Увядзенне дадатковых мераў па абароне праязных дакументаў ад падробкі (у прыватнасці, друкаванне талонаў і месячных праязных на паперы з вадзянымі знакамі) таксама сябе апраўдала: калі паўгода назад штомесячна канфіскоўвалася па некалькі соцень фальшывых праязных білетаў, дык сёння гэтая лічба зменшылася да 15—20 адзінак. Праўда, па-ранейшаму нярэдкія выпадкі, калі пасажыр катаецца на грамадскім транспарце па пратэрмінаванаму праязному ці спрабуе ўсыпіць пільнасць кантралёра несапраўдным пасведчаннем.

**Надзея НІКАЛАЕВА.**

---

**СЁННЯ**

### МЕСЯЦ

**Маладзік 12 кастрычніка**

### ІМЯНІНЫ

**Пр. Прп. Кірыяка, Прп. Феафана.**

**К. Эдвіна**

### НАДВОР'Е

Сёння ўдзень па рэспубліцы захаваецца пераменная воблачнасць, без ападкаў, раніцай месцамі туман. Тэмпература паветра ў Віцебску — 10—12, Магілёве — 11—13, Гродне, Мінску — 12—14, Брэсце, Гомелі — 13—15 градусаў.

У наступныя двое сутак невялікая воблачнасць, без ападкаў. 13-га ўначы тэмпература 1—6 градусаў цяпла, па ўсходу — замаразкі да 0 — мінус 2, удзень — 13—18; 14-га ўначы — 3—8, удзень — 16—21 градус.

**АНТАЛОГІЯ БЕЛАРУСКАЙ ПЕСНІ**

# КАЛІНА-ЯГАДА

**Музыка Леаніда ЗАХЛЕЎНАГА**
**Верш Уладзіміра НЯКЛЯЕВА**

«Не баіцца хлопцаў дзеўка смелая», — з усмешкаю, задзірлівым выклікам спявае Святлана Суседчык, салістка гурта «Бяседа». Звонкі голас, гуллівыя, з асаблівым сэнсам інтанацыі нясуць здаровы дух, жыццядзейную весялосць.

Гэта пра Святлану пісаў у вершы паэт, з падтэкстам крыху іранічна згадваючы пра «ваяводу» і «купца», якія не атрымалі ад яе ўзаемнасці. З разлікам на яе выкананне складалася музыка.

Спявачка творча выявіла ідэю песні, па-мастацку пераканальна паказала такія прыцягальныя штрышкі характару дзяўчыны, як энергічнасць, смеласць, здольнасць не паддацца жыццёвай спакусе ў выбары каханага. Нездарма паэт звярнуўся да вобраза каліны — расліны, якая не баіцца непагадзі, а непаўторны смак, гаркавата-салодкі, і лекавыя ўласцівасці набывае пасля першых замаразкаў...

Мелодыя будучай песні даўно выспела ў Леаніда Захлеўнага. У музыцы, заснаванай на народных матывах, ён жадаў перадаць неўтаймоўны дух дзяўчыны, імкненні яе ласкавай, непадкупнай душы.

Кампазітар па-сяброўску звярнуўся да Уладзіміра Някляева напісаць тэкст да ўжо створанай музыкі. Іх звязвала творчае супрацоўніцтва. Шырока вядомы іх сумесныя песні «Поле памяці», «Памяць», «Школьны вальс». Асаблівую папулярнасць набыла песня «Зямля мая», якую прачула выконвала Валянціна Пархоменка. Тэкст новай песні пісаўся спакваля. Кампазітару давялося ўпарадкаваць паэтычныя радкі, слупкі, каб своечасова падрыхтаваць твор да выканання.

Прэм'ера песні «Каліна-ягада» адбылася на аўтарскай вечарыне Уладзіміра Някляева, якая праходзіла ў чэрвені 1996 года па праграме IV фестывалю беларускай песні і паэзіі ў Маладзечне. Поспех прыйшоў адразу. І песня, і спявачка спадабаліся аматарам музыкі. Цяпер гэты вакальны твор выконваюць многія спеўныя гурты.

**Міхась ШАВЫРКІН.**















*Каля броду каліна,*
*Пад калінай дзяўчына*
*Мые косы, мые плечы белыя.*
*Косы вымывае,*
*Скоса пaглядае:*
*Дзе вы, хлопцы,*
*Дзе вы, хлопцы смелыя?*

**Прыпеў:**

*Каліна-ягада яшчэ няспелая.*
*Не баіцца хлопцаў дзеўка смелая.*
*Дзеўка белая, спелыя гады,*
*Ой, пара з ёй ісці па ягады.*

*Хлопцы малы, дробненькі,*
*Ды адзін удаленькі.*
*Ён да дзеўкі пад прыпеўкі коціцца.*
*Ну яго прыпеўкі,*
*Пачакай ты, дзеўка,*
*Каля броду ваяводу ці купца.*

**Прыпеў.**

*Каля броду каліна,*
*Пад калінай дзяўчына.*
*Берагамі быстрая бяжыць вада.*
*Едуць ваявода*
*І купец да броду...*
*А з каліны ўжо сарвана ягада.*

**Прыпеў.**

**Песня «Каліна-ягада» змяшчаецца па просьбе ўдзельнікаў мастацкай самадзейнасці Дзяржынскага раёна (вёска Касілавічы)**




## ВІНШАВАННІ

З залатым вяселлем, дарагія Соф'я Іванаўна і Аляксандр Іванавіч ВЯТОХІ! Шчыра віншуем, жывіце доўга і шчасліва.

**Дзеці, унукі.**

З залатым вяселлем віншуем Шуру і Васю ВАРАНКОЎ, добрых людзей з Гродна, ветэранаў вайны.

**Жалкоўскія, г. Ліда.**

Сардэчна віншую з днём нараджэння брата Канстанціна. Жадаю моцнага здароўя, заўсёды быць жаданым і любімым.

**Кавалькоў В. П., г. Ельск.**

Горача віншуем з днём нараджэння нашу матулю Ганну Чаславаўну АБУХОВІЧ. Жадаем здароўя, шчасця і ўсяго самага найлепшага ў жыцці.

**Дзеці, г. п. Астравец.**

Сардэчна віншуем дарагую і любімую дачку і матулю Людмілу Міхайлаўну ВОЛКАВУ з днём нараджэння. Жадаем моцнага здароўя, поспехаў у працы і доўгіх шчаслівых гадоў жыцця.

**Тата, мама, сын Сяргей.**

Віншуем з днём нараджэння Рэгіну Мечыславаўну з в. Ямічно. Жадаем моцнага здароўя, шчасця, радасці і поспехаў ва ўсіх справах.

**Руткоўскія з пас. Сасновы Бор Івацэвіцкага раёна.**



**СУБОТНІМ ВЕЧАРАМ**

## КРЫЖАВАНКА












**Па гарызанталях**: 6. Праснаводная рыба сямейства карпавых. 7. Двухколавая павозка ў Сярэдняй Азіі. 9. Шэрсць авечкі (высок.). 11. Самы масавы жанр паэзіі. 12. Кубак з вузкай шчылінай для збору манет. 15. Удзельнік масавых падзей у Францыі 1871 года. 18. Баявое судна, якое суправаджае для аховы групу неваенных караблёў. 21. Спосаб нарыхтоўкі кармоў шляхам заквашвання. 22. Традыцыйны жаночы галаўны ўбор. 23. Англійскі натураліст-класік XIX ст. 24. Ёмістасць для вадкасцей. 26. Запаленне слізістай абалонкі зева. 27. Французскі жывапісец, аўтар вядомых карцін «Дзяўчынка з веерам», «Купанне на Сене». 29. Раствор смол у спірце. 32. Народны паэт Беларусі. 34. Шкло ў аптычнай прыладзе. 36. Рэчыва, якое паскарае або запавольвае ход хімічнай рэакцыі. 39. Каркас, аснова калёс. 41. Спаборніцтва на звышдалёкіх дыстанцыях. 43. Званне, пасада ў ВНУ або НДІ (збор.). 44. Спосаб вымаўлення слоў. 45. Шпень са спіральнай нарэзкай. 46. Сярэдняя частка музычнага твора. 47. Сталіца паўночнаеўрапейскай дзяржавы.

**Па вертыкалях**: 1. Нядобразычлівец, вораг. 2. Балет А. Эшпая. 3. Скопішча пладоў, кветак на адной галінцы. 4. Прыродная зона трапічных стэпаў. 5. Адметны востраў у Ціхім акіяне. 8. Чыгуначны вузел на Беларусі. 10. Аповесць В. Быкава. 13. Прыгнятальнік і эксплуататар працоўных мас на захопленай тэрыторыі. 14. Прылада для назапашвання электрычнасці. 16. Народны пясняр у каўказскіх народаў. 17. Механізм, прыстасаванне (разм.). 19. Вышынны паверх, высокае месца (разм.). 20. Афрыканская птушка атрада галянастых. 24. Адзінка вымярэння сілы ветру. 25. Востраў у Адрыятычным моры. 28. Скрынка для выбарчых бюлетэняў. 30. Руская савецкая паэтэса, аўтар паэмы «Зоя». 31. Вострая частка рэжучай або сякучай прылады. 33. Горная сістэма ў Еўропе. 35. Вясельны абрадавы пірог круглай формы. 37. Музычны твор, звычайна балетны. 38. Горад у Хабараўскім краі. 40. Хімічны элемент, газ без колеру і паху. 42. Запас, накапленне.

**Склаў Віктар СУХАРАЎ.**
г. п. Бялынічы.

## ПРАВЕРЦЕ, КАЛІ ЛАСКА, АДКАЗЫ

**«Квартэт» (28 верасня).** У байцы ёсць дзве дакладныя «прывязкі» персанажаў і інструментаў, на якіх яны ігралі. «Ты с басом, Мишенька, садись против альта, я, прима, сяду против вторы», — гэта словы Мартышкі. А як жа астатнія два інструменты? У чарнавым накіду байкі ў І. А. Крылова ёсць і на гэта прамыя ўказанні: Асёл з другой скрыпкай, Казёл — з альтом. Але потым аўтар падкараціў байку, лічачы яе занадта расцягнутай. Але і без таго зразумелы расклад інструментаў і выканаўцаў на іх: у XIX стагоддзі, калі пісалася байка, было прынята называць выканаўцаў у струнным квартэце ў такім парадку — першая скрыпка, другая скрыпка, альт, віяланчэль або бас.

**Крыжаванка (5 кастрычніка). Па гарызанталях:** 5. Дэфіле. 7. Экасез. 9. Нырэц. 10. Абразок. 11. Мультан. 12. Скапа. 15. Ратанг. 18. Піястр. 20. Мдывані. 21. «Дубкі». 22. Нерпа. 23. Нуакшот. 24. Штанга. 27. Ашмяны. 30. Мачта. 33. Брыгада. 34. Правіла. 35. Канал. 36. Трысцё. 37. Акруга. **Па вертыкалях:** 1. Лімузін. 2. Фенікс. 3. Дэцыма. 4. Гарэлкі. 5. Домбра. 6. Дрыса. 8. Затакт. 13. Крыкава. 14. Планшэт. 16. Труба. 17. Гміна. 18. Пінта. 19. Сепія. 25. Тэрцэт. 26. Гратэск. 28. Шпалеры. 29. Нельма. 30. Маркёр. 31. Чэрнь. 32. Аполаг.













## УСХОДНІ ГАРАСКОП
### НА НАСТУПНЫ ТЫДЗЕНЬ

***ДЭЛІ. (Кар. ІТАР—ТАСС Леанід КОТАЎ).***

КАЗЯРОГ пачне атрымліваць даход ад нядаўна пачатага бізнесу. Фінансавая сітуацыя, якая ўдала складваецца для вас, можа аказацца пад пагрозай з-за рызыкоўных аперацый або непрадуманых дзеянняў. Пазбягайце гэтага і больш грунтоўна будуйце падмурак вашага дабрабыту, а не ўзводзьце картачны домік на пяску.

ВАДАЛЕЙ сустрэнецца са сваім даўнім сябрам, і гэта сустрэча супадае з атрыманнем выгаднай дзелавой прапановы. Поспехі ў бізнесе яўна сведчаць, што вы на парозе вялікага ўзлёту ў кар'еры. Неабходнасць настойлівай работы і кантролю за справамі прымусяць адмовіцца ад замежнай паездкі, у якую адправіцеся завяршыць пачатае.

РЫБАМ зоркі раяць перастаць праводзіць бесклапотна час і пачаць больш сур'ёзна адносіцца да бізнесу, інакш промахаў не пазбегнуць. Тыдзень акажацца насычаным рознымі падзеямі і мерапрыемствамі. Адпачыць ад іх вы зможаце ў сям'і, рашыўшыся на падарожжа разам са сваякамі ў напрамку прыгожых гор і альпійскіх лугоў.

АВЕНЫ сутыкнуцца з абставінамі, якія паслужаць сігналам для сур'ёзных перамен, што намячаюцца ў кар'еры. Хутчэй за ўсё гэта адбудзецца з тымі з вас, каму крыху за 30. Усім, незалежна ад узросту, можа выпасці не вельмі лёгкая размова са сваякамі па фінансавых пытаннях. Каханне зведаюць тыя, хто даўно забыўся пра яго.

ЦЯЛЬЦАМ трэба хутчэй расплаціцца з крэдыторам, інакш яны «пойдуць у штыкавую», і тады трымайцеся. Планеты будуць спрыяць тым з вас, хто выбраў творчыя прафесіі, а таксама працуе ў сферы рэкламы. Гэта дае вам шанц паказаць талент і заключыць новыя кантракты.

БЛІЗНЯТЫ могуць з поспехам ажыццяўляць фінансавыя аперацыі, якім планеты на гэтым тыдні спрыяюць. Дзяржслужачыя няхай рыхтуюцца да атрымання вялікай прэміі або павышэння на пасадзе і акладу. Святочная атмасфера ўсталюецца ў вас дома, ад якой вы атрымаеце асалоду разам з сям'ёй.

РАК няхай не ўхіляецца ад удзелу ў латарэях і азартных гульнях. Там вас чакаюць выйгрыш і поспех. Дадатковая фінансавая крыніца спатрэбіцца пры ўплаце ўзносу за кватэру і па іншых рахунках. Бізнесмены атрымаюць выгадныя прапановы, ад якіх усё ж лепш адмовіцца дзеля выканання пачата раней важнай справы.

ІЛЬВЫ адчуюць цягу да перамены месцаў, змены работы і новых уражанняў. Зоркі не раяць вам перанапружвацца і ўзвальваць на сябе вельмі многа абавязкаў. Дзень—два лепш правесці ў сям'і, адпачыць і набрацца сіл для новых здзяйсненняў.

ДЗЕВЫ павінны падвоіць увагу да работы і быць гатовымі да каверзаў з боку начальства. Планеты не раяць у бліжэйшы час залішне давяраць калегам і партнёрам. Пазбягайце спрэчак з акружаючымі і старайцеся трымацца ўбаку. Ваша фінансавае становішча будзе стабільным, але не спыняйце пошуку новых магчымасцей у бізнесе.

ШАЛІ, якія імкнуцца знайсці добрую работу, атрымаюць выгадную прапанову. Моладзь, якая думае пра ратную службу, зможа рэалізаваць мару аб пагонах. Дзеячы навукі адправяцца ў замежную паездку. А тыя, хто прысвеціць тыдзень клопату аб уласнай кар'еры, зробіць зусім правільна і даб'ецца выніку.

СКАРПІЁН павінен будзе адправіцца ў паездку, каб атрымаць суму, што належыць яму. Вам таксама трэба паклапаціцца аб новай крыніцы фінансавых паступленняў і дзеля гэтага, можа, нават змяніць месца работы. Чакаецца ўдзел у важных афіцыйных мерапрыемствах, а таксама наведванне сяброў і сваякоў.

СТРАЛЬЦЫ будуць выкарыстоўваць выгадныя магчымасці для расшырэння бізнесу, падпісваць новыя кантракты і абмяркоўваць за мяжой пытанні стварэння сумесных прадпрыемстваў. Дзяржслужачым трэба працаваць у пары з маладым памочнікам, які апраўдае ўсе вашы надзеі.

**Згубленае пасведчанне аб праве на льготы серыі А № 219961, выдадзенае на імя Дзядзюлі Генадзя Уладзіміравіча, лічыць несапраўдным.**




ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь, Кабінет Міністраў Рэспублікі Беларусь, калектыў рэдакцыі газеты «Звязда».

Галоўны рэдактар У. НАРКЕВІЧ.

Рэдакцыйная калегія: У. АНДРЫЕВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара), І. БАРАНОЎСКІ, У. ГОЙТАН, В. ЖДАНКО, Л. ЛАХМАНЕНКА, М. МІХАЕВІЧ (першы намеснік галоўнага рэдактара), А. МЯСНІКОЎ, Л. РЫЖАНКОВА (намеснік галоўнага рэдактара), С. ШАЎЦОЎ.

Рэгістрацыйны нумар 1.

*НАШ АДРАС: 220013, гор. Мінск, вуліца Б. Хмяльніцкага, 10-а, рэдакцыя газеты «Звязда».*
*ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай — 68-29-19; намеснікаў галоўнага рэдактара — 32-44-12, 32-14-25, 32-35-05; аддзелаў: інфармацыйна-аналітычнага — 32-38-02, 68-28-14, 68-29-68, эканомікі — 32-31-21, 68-29-68, палітыкі — 68-27-57, 68-28-64, культуры — 68-29-42, 68-28-27, пісьмаў — 68-27-47, маралі і права — 68-28-51, міжнацыянальных адносінаў — 68-27-40, 68-28-69, журналісцкіх расследаванняў — 68-28-38, 68-28-72, беларускай дыяспары — 68-28-27, знешнеэканамічнай дзейнасці — 68-29-44; аглядальнікаў па праблемах: навукі і адукацыі — 68-28-31, экалогіі і ліквідацыі вынікаў Чарнобыля — 68-28-36; уласных карэспандэнтаў: у Гродне — 33-25-29, Гомелі — 53-13-92, Баранавічах — 7-26-02, Паставах — 22-400, Маскве — 365-16-44; бухгалтэрыі — 32-22-03; даведкі па рэкламе і аб'явах — 32-31-98. ФАКС: 32-04-52, 68-28-77. E-mail: daily@zwyazda.belpak.minsk.by*

Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў. Іх меркаванні не заўсёды супадаюць з меркаваннем рэдакцыі.
Адказнасць за змест рэкламы нясуць рэкламадаўцы.
Рэдакцыя пакідае за сабой права не ўступаць у перапіску з чытачамі.

Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». Мінск, праспект Ф. Скарыны, 79.
Тыраж 94.430. Індэкс 63850.
Зак. № 6633.
Выходзіць 250 разоў на год.
Нумар падпісаны ў 20.15.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12